Хрыстос Уваскрос!



Святая Зямля → 12




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 16 (2918) Год LVII | Беласток, 15 красавіка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# У месцы трагедыі манастыр

**Праваслаўны жаночы манаскі дом святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах быў адкрыты 24 жніўня 2007 года і летам будзе адзначаць пяцігоддзе дзейнасці. Пастаянна жыве ў ім ігумення Елізавета (Нічыпарук), якая родам з непадалёк распаложанага Грабаўца. Сярод залешанцаў, загінуўшых пасля вайны з рук жаўнераў падпольнага атрада пад камандаваннем Рамуальда Райса «Бурага», былі блізкія па бацьку сваякі матушкі Елізаветы. Забітых і спаленых ахвяр людзі лічаць мучанікамі і гавораць, што менавіта дзякуючы іх малітвам і хадайніцтву ў Госпада быў заснаваны і дзейнічае манаскі дом.**



Зараз побач вуліцы ў Залешанах красуецца мураваны, прыгожа адрамантаваны манаскі дом, збоку відаць драўляную царкву, якой будова яшчэ не завершана. Пляцоўка вакол згаданых будынкаў прыбраная і абгароджаная сеткай. Відаць, што былі праведзены тут веснавыя работы. Матушку Елізавету разам з яе гасцямі, дзяўчатамі, што прыязджаюць сюды дапамагаць у розных працах, спатыкаю ў час абеду. На гэты раз, у нядзелю, маладыя людзі з Бельшчыны, Гайнаўшчыны, Сакольшчыны і Беластока прыехалі не дзеля работы. Пасля літургіі ў царкве св. велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках дабраліся яны ў жаночы манаскі дом, каб пагаварыць і адпачыць.

— Дзяўчаты, якія прыязджаюць да нас, гэта вучаніцы сярэдніх школ, студэнткі і абітурыенткі вышэйшых школ, якія цікавяцца духоўнымі справамі і дапамагаюць нам сваёй працай. Можа нехта з іх застанецца жыць пастаянна ў нашым манаскім доме. Але я стараюся не ўгаварваць дзяўчат на хуткае рашэнне аб манаскім жыцці і прысвячэнні сябе служэнню Богу, бо гэта вельмі важны жыццёвы крок і павінен быць ён моцна перадуманы. Раней я выязджала на вучобу ў Грэцыю, закончыла там тэалагічную паслядыпломную адукацыю на Універсітэце імя Арыстоцеля ў Салуні. Цяпер магу поўнасцю прысвяціць свой час і сілы манаскаму дому. Многа тут працы і планаў, якія трэба выканаць у бліжэйшай і далейшай будучыні, — сказала ігумення Елізавета.

Літургія ў кожную апошнюю нядзелю месяца служыцца ў драўлянай царкве св. велікамучаніцы Кацярыны, калі на двары адноснa цёпла, а калі холадна — у капліцы ў мураваным манаскім доме. Пасля літургіі чытаецца акафіст у гонар св. велікамучаніцы Кацярыны і служыцца малебен за хворых і паломнікаў, якія штораз больш многалюдна наведваюць залешанскі манаскі дом. 7 снежня, калі ўспамінаецца памяць св. велікамучаніцы Кацярыны, служацца ўсяночная і літургіі. Тады прыязджае найбольш паломнікаў. Аднак іх колькасць пэўна была б намнога большая, калі б святкаванні адбываліся летам. Прадбачваецца, што ў будучыні святкаванне ў гонар св. велікамучаніцы Кацярыны будзе адбывацца таксама летам, прымеркаванае да дня заснавання манаскага дома, 24 жніўня. Малітвы ў манаскім доме ўзначальваюць манахі з распаложанага непадалёк (звыш кіламетра) Мужчынскага манастыра св. велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках, разам з настаяцелем ігуменам Цімафеем. Па-за згаданымі нядзелямі матушка Елізавета моліцца ў манастыры ў Саках і ўзначальвае прыхадскі хор у час службаў у распаложанай на горцы царкве св. велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага.

Мураваны дом у Залешанах, прыстасаваны зараз да манаскага жыцця, купілі ў палове мінулага дзесяцігоддзя сакоўскія манахі, з тадышнім настаяцелем архімандрытам Варсанофіем, і пачалі прыстасоўваць для патрэб паломнікаў. У 2007 годзе перадалі яго на патрэбы жаночага манаскага дома, заснаванага дэкрэтам мітрапаліта Савы. Ідэя манаскага дома ўзнікла ў Грэцыі і добра памятае аб гэтым ігумення Елізавета.

— Калі ўладыка Сава быў у Грэцыі, я дапамагала дэлегацыі з Польшчы ў якасці перакладчыцы. Тады мітрапаліт Сава запрапанаваў стварэнне ў Польшчы жаночага манастыра ў грэцкім духу. У Залешанах стаяў ужо часткова адрамантаваны дом, у якім мы завяршылі рамонтныя працы і прыстасавалі будынак для патрэб манаскага дома. Зрабілі капліцу і канчаткова прыстасавалі паддашак для жыллёвых мэт, а на панадворку павыкідвалі кусты, зраўнялі тэрыторыю. Трэба было ўсё купляць, пачынаючы з грабляў, а канчаючы на газонакасілцы, — расказвала матушка Елізавета.

У 2010 годзе была збудавана царква св. велікамучаніцы Кацярыны і прыгожа абсталявана ўсярэдзіне. Звонку плануецца яшчэ абабіць храм прыгожымі дошкамі і паставіць яго на бетонным фундаменце, але дзеля гэтага трэба яшчэ ўпарадкаваць справы ўласнасці некалькіметровай паласы грунту, што знаходзіцца збоку манаскага панадворка. Матушка Елізавета паведамляе, што прадбачваецца яшчэ разбудаваць гаспадарчы будынак і прыстасаваць яго для патрэб кухні, сталовай і туалета з ваннай. Калі пасля багаслужбаў на двары халаднавата, у мураваным будынку замала месца, каб накарміць паломнікаў. Каб людзі пасля ўсялякіх работ на манастырскай тэрыторыі маглі там таксама абмыцца.

— Я хацела б займацца адукацыйнай працай у сэнсе распаўсюджвання духовай літаратуры, у галоўным сярод нашага праваслаўнага грамадства. Зараз я займаюся перакладам з грэчаскай мовы на польскую вельмі цікавай кніжкі «Там, дзе не відаць Бога», аўтарства астрафізіка, выпускніка Гарвардскага ўніверсітэта і былога працаўніка НАСА, епіскапа Мікалая (Хадзінікалау), які ў Сінодзе Грэчаскай царквы займаўся, між іншым, у біяэтычнай камісіі. У кніжцы закранае ён вельмі складаныя жыццёвыя праблемы. Піша пра дылемы, перад якімі стаяць бацькі дзяцей хворых на пухліну, аўтызм, пра тых, якіх спасціглі цяжкія хваробы, пра родзічаў, якія пахавалі сваіх дзетак, пра многіх іншых асоб, на якіх зваліліся жыццёвыя трагедыі. Улічваючы людскую псіхалогію, епіскап Мікалай стараецца даць духовыя адказы на пытанне чаму Бог дапускае да такіх жыццёвых выпрабаванняў. Раіць ён, напрыклад, як людзі павінны ставіцца да калецтва, з якім трэба жыць, ці вялікіх катастроф. Няма ў кніжцы агульных адказаў. Епіскап Мікалай стараецца даць у кожным выпадку індывідуальныя парады. Зараз адбываецца карэктура майго перакладу і я спадзяюся, што вельмі цікавая кніжка будзе выдадзена яшчэ ў гэтым годзе, — гаварыла ігумення Елізавета. — У маіх планах таксама рэальнае супрацоўніцтва з моладдзю. Маем намер выдаваць штоквартальнік духовага характару аб сучасных і актуальных праблемах, якімі жывуць, напрыклад, маладыя людзі ў Грэцыі, а якія падобныя да нашых праблем. Хацела б я таксама спісаць манаграфію Залешанаў з улікам трагічных падзей пасля вайны, калі жаўнерамі атрада, якім камандаваў Рамуальд Райс «Буры», было забітых ажно 14 асоб, у тым ліку 5 маленькіх дзетак. Сярод спаленых і забітых былі таксама мае блізкія сваякі.

Нядаўна жаночы манаскі дом святой велікамучаніцы Кацярыны выдаў кампакт-дыск «Спяваючы з Анёламі», на якім запісаны царкоўныя творы (між іншым, выкананыя знаменным распевам), прысвечаныя св. велікамучаніцы Кацярыне, творы з усяночнай і літургіі, якія спяваюць манахі Мужчынскага манастыра ў Саках і матушка Елізавета.

— Кампакт-дыск мы запісалі ў Дзмітрыеўскай царкве ў Саках, калі было холадна, а нас спасцігалі прастуды. Трэба было вельмі многа разоў паўтараць спяванне паасобных твораў, бо гукарэжысёр заўважваў нейкія шумы. Але ўсё закончылася паспяхова. Вельмі пашанцавала нам, бо наш спеў запісваў вельмі таленавіты і вопытны гукарэжысёр Марцін Гайко і дзякуючы гэтаму атрымалася кружэлка з вельмі якасным запісам. Кампакт-дыск прапануем людзям з розным духовым вопытам і з рознай анагажаванасцю ў рэлігійнае жыццё, — сказала ігумення Елізавета.

**Ахвяраванні на дзейнасць Праваслаўнага жаночага манаскага дома св. велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах, 17-250 Кляшчэлі можна пералічваць на банкаўскі рахунак: 18806300010070070659180001**





# „Адпавядае інтарэсам...”

*Паехаў нядаўна адзін знаёмы хлопец сваім аўтамабілем у вялізную Маскву. На другі дзень пабыту там бандыты знялі ў яго з машыны нумары. Злачынная сістэма ў гэтым кірунку палявання на машыны з суседніх дзяржаў там адпрацаваная дасканала. Чалавек, які стаў яе ахвярай, мусіць праз электронны рахунак заплаціць „выкуп”, пасля чаго яму гэтыя нумары вернуць. Выйсця, па сутнасці, няма, звяртацца ў паліцыю (нядаўняя міліцыя ў Расіі цяпер мянуецца менавіта так) — бессэнсоўна. Вяртаца ў Беларусь на машыне без нумароў — тая ж паліцыя дзесяць разоў спыніць, і кожны раз трэба хабар заплаціць. „Масква, як многа ў гэтым гуку!” — рытарычна і захаплялльна пісаў некалі паэт Юрый Лермантаў. „І як мала ў гэтым горадзе!” — як дадавалі пазней гумарысты. Як мала надзеі ў ім на справядлівасць, нармальнасць, людскасць. Нездарма іншы расійскі паэт Іосіф Бродскі прысвяціў Маскве такія радкі: „Лепшы від на гэты горад, калі ёсць бамбардзіроўшчык”.*

*Яшчэ адна праўдзівая гісторыя, якіх багата. Вярнуліся маладыя гарадзенскія хлопцы з будоўлі ў Маскве. Як гэта часта бывае там, нічога ім не заплацілі за працу, далі грошы толькі на квіткі ў Мінск. Добра яшчэ, што жывымі адпусцілі, бо дзясяткі беларускіх маладых мужчын, якія едуць туды на заробкі, знікаюць у „белакаменный” і яе ваколіцах увогуле без вестак. І гэта абсалютная праўда, гэта рэальнасць жыцця. А вось пару цытатаў з першай старонкі дзяржаўнай газеты „Звязда” паводле прэсслужбы прэзідэнта РБ, акурат да „дня яднання народаў Беларусі і Расіі”: „Прадаўжэнне курсу на развіццё інтэграцыі адпавядае інтарэсам грамадзян Беларусі і Расіі”, „Нашы народы звязваюць шматвяковыя традыцыі дружбы і добрасуседства, агульныя духоўныя карані, слаўныя старонкі сумеснай гісторыі”. Другая цытата з віншавання прамежкавага прэзідэнта Расіі Дзмітрыя Мядзведзева. Можна, канешне, прыгадаць некаторыя „слаўныя” старонкі гэтай супольнай гісторыі. Прыкладам, як войскі „цішайшага” маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча знішчылі самі альбо давялі да галоднай смерці роўна палову насельніцтва беларускай зямлі. Як іншы „вялікі” самадзержац Пётр І уласнаручна катаваў і забіў святароў у Сафійскім саборы ў Полацку. Як залію крывёй усю Беларусь „вялікі палкаводзец” Аляксандр Суворaў. Як нішчылі бальшавікі, што прыйшлі з усходу, цвет беларускай інтэлігенцыі і гаспадарнікаў, дзесяткі тысяч звычайных, нармальных людзей у засценках НКВД і ленінска-сталінскіх канцлагерах.*

*Ну а першая цытата, не цяжка здагадацца, належыць сённяшняму кіраўніку Беларусі, які сваім курсам на „інтэграцыю” са „старэйшым братам” зацягнуў краіну ў такую палітычную багну, у такую гаспадарчую дрыгву, што ці выжыве яна — краіна — увогуле. Канешне, такі курс адпавядае інтарэсам грамадзян Беларусі. Адпавядае агульная мытная прастора — пасля яе ўсталявання беларусы ўжо не могуць купіць і ўвезці з Еўропы нармальную аўтамашыну. Адпавядае пабудова ў турыстычнай, экалагічна чыстай Астравеччыне атамнай станцыі — яе ж будуюць найлепшыя ў свеце расійскія будаўнікі. Можна тут успомніць як у 1986 годзе па загадзе з Крамля над Беларуссю авіяцыя рассейвала чарнобыльскія воблакі. Гэта ж таксама адпавядала інтарэсам беларускіх грамадзян. Каб ужо напоўніцу задаволіць гэтыя інтарэсы, трэба яшчэ канчаткова аб'яднаць войска (адзіная супрацьпаветраная абарона ўжо створаная). І тады пойдуць беларускія хлопцы бараніць нашы інтарэсы ў Дагестане і Інгушэціі, а можа і далей. Некалі ж вельмі цесная інтэграцыя ў Савецкім Саюзе дазволіла беларусам сумленна выканаць „інтэрнацыянальны доўг” у Афганістане. Ну і яшчэ для поўнага шчасця ўвесці ў Беларусь расійскі рубель — тады ўсе нашы грамадзяне зажывуць заможна і бестурботна.*

*Толькі чамусьці тысячы суайчыннікаў — адукаваных, прадпрымальных і энергічных людзей маладога і сярэдняга веку выязджаюць з нашага „сацыяльнага раю” ва ўсе куткі свету: Амерыку, Аўстралію, еўрапейскія краіны. Інтэграцыя з Расіяй неяк не адпавядае іх інтарэсам. А калі прыязджаюць у Беларусь да сваякоў і сяброў, то расказваюць зусім не такія гісторыі, што тыя, хто воляй альбо няволяй лёсу трапляе ў Маскву.*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Трапятанне дубовай гарматы

*У паўстанцкім зрыве 1863 года супраць царскай Расіі ўдзельнічалі не толькі палякі. У партызанскіх партыях можна было сустрэць літоўцаў, беларусаў, украінцаў, расіян, нярэдка афіцэраў — уцекачоў з царскай арміі. Пераходзілі яны на бок паўстанцаў па розных прычынах — найчасцей матываваных нянавісцю да царызму. Абыдзем, аднак, пытанне іх нялёгкага выбару і накіруемся да вясёлага, незалежна ад драматычных падзей, анекдота. Яго героем з'яўляецца легендарны Апалінар Казанскі, вядомы пад псеўданімам „Глеб”. Ці быў ён народжаным беларусам, ці расіянінам, гісторыкі спрачаюцца да сёння. Ружжом з'яўляюцца аргументы, факты і дакументы. Не ігнаруйма, аднак, сапраўднага маштабу гэтага канфлікту. Калі рацыі і аргументы маглі б матэрыялізавацца як танкі і ракеты, вынікі вучонага канфлікту мелі б апакаліпсічны маштаб. Мала што атамнай вайны!*

*Паводле будыстаў трэпет крыльцаў перапалоханага матыля, скажам, у Паўднёвай Амерыцы, не застаецца без уплыву на тое, што адбываецца на другім баку зямнога шара. А можа даць у выніку землятрус. Таму не грэбуйма, напрыклад, змаганнем дзвюх моляў за кавалачак воўны, таму што наступствы гэтага адчуем у значнай ступені, як хаця б упадкам зоны еўра. Ды вернемся да вучонай спрэчкі. У сямідзесятыя гады ХХ стагоддзя навуковыя антаганізмы мелі нярэдка ідэалагічную аснову. Спрачаліся не так за факты, як за светапоглядныя рацыі. На гэтым фоне даходзіла да кулачных баёў. Так і сталася ў час семінара, прысвечанага паўстанню 1863 года. На абочыне вучонай дыскусіі распалілася спрэчка на тэму паходжання „Глеба”. Прадстаўляючы марксісцкую пазіцыю, гісторык Ч. заявіў, што „Глеб” — паводле яго здраднік і рэнегат — не мог быць ні расіянінам, ні беларусам, таму што на такога вырадка не заслужылі б вялікія і шляхетныя народы СССР, гэта значыць беларусы і расіяне. Яго антаганіст, П., перакананы аб перавазе фактаў над ідэалогіяй, упіраўся, што паходжанне „Глеба” не мае тут ніякага значэння, таму што царызм прыгнятаў пароўну беларусаў, палякаў ці расіян. Гісторык Ч. не сцярпеў крытыкі і ўляпіў свайму апаненту плескача ў патыліцу. П. не застаўся ў даўгу і выпаліў на крывадушным абліччы Ч. знак свайго гарачага абурэння. У справу ўключыліся партыйныя фактары. Трывогу ад ідэалагічнага маштабу канфлікту выказала ў адпаведным лісце пасольства СССР. Адразу закіпела ў Польскай акадэміі навук, абараняючай суверэннасць навукі. Да ПАН далучыўся польскі ПЭН-Клуб, абвясціўшы, што накіруе адпаведны ліст вучоным і творцам усяго свету ў абарону гісторыка П. Ужо, кажуць, у ААН разважалі ўвядзенне санкцый, толькі што не вельмі было вядома за што і на каго. Ды пагроза дала вынік. Сусветны канфлікт быў своечасова прадухілены.*

*У гэтым месцы ўрэшце прывядзем той анекдот. „Глеб”, будучы раней афіцэрам царскай артылерыі, вельмі шкадаваў, што паўстанцкая армія не мае гармат. А вельмі па іх тужыў. Аднойчы рашыў выстругаць іх, хай і драўляныя! І змайстраваў з дубовых пянькоў дужманыя гарматы. Толькі што з іх страляць ніяк не ўдавалася. Здарылася, аднак, што калі расійскі атрад убачыў батарэю, страціў свой дух і ўцёк. „Ура” ў гонар „Глеба” не было канца. Аднойчы, усё-такі, „Глеб” мусіў пакарыстацца сваімі гарматамі. Мэтай сталі казакі, якія ўбачыўшы, што ў дулы гармат „Глеб” зараджае порах, пачалі пасмейвацца з самаробных хлапушак. Гэтай абразы „Глеб” не сцярпеў і выстраліў з гармат. На радасць як паўстанцаў, так і казакоў, раскалоліся яны папалам. Першыя перасталі смяяцца казакі. Неспадзявана заатакаваныя плачучымі ад смеху паўстанцамі, няслаўна далі ходу. Не справіўшся ж з прашйнікам, які коціцца са смеху, ідучы, было ні было, у бой на жыццё і смерць. Ці „Глеб” быў беларусам ці расіянінам, для гісторыі гэта малаважнае пытанне. Важна, што такі чалавек сапраўды быў. І сапраўды горача біўся „за нашу і вашу свабоду”. На жаль, драўляных гармат больш не стругаў. Шкода. Адна такая магла б стаць, скажам, на плошчы ў Мінску. На вечную памятку таго... што нішто не вечнае.*

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Не хварэй!



*Удавалася мне да гэтай пары пазбягаць бальніц, дыспансераў, амбулаторый, агулам кажучы — устаноў дзяржаўнай аховы здароўя. Аб кашмарах пацыентаў галоўным чынам чытаў я і чуў у СМІ. У апошні час першы раз у жыцці і я мусіў стануць насупраць медычных устаноў, так моцна зненавіджаных грамадствам. Па прычыне турбуючых мяне хвароб трапіў я да сямейнага лекара. Пасля выслухання пра мае захворванні таксама занепакоены доктар адразу выслаў мяне ў шпіталь, які нёс экстраннае дзяжурства. У такой сітуацыі я апынуўся ўпершыню; рухаўся там як славутае дзіцё ў тумане. У акенцы „Рэгістрацыя” я спытаўся, што мне рабіць з накіраваннем ад сямейнага лекара. Рэгістратарка дала інструктаж: „Прымуць вас у пакоі нумар адзін або два”.*

*І столькі таго. Пайшоў я пад „адзінку”. Пад ім і пад „двойкай” побач — дзесяткі чакаючых.*

*— А ці вы ведаеце, што трэба зрабіць, каб прынялі? — спытаўся я ў абапертай аб сцяну старэнькай кабецінкі ў хустцы.*

*— Хуценька, хуценька, без стукання, адчыніце дзверы і хуценька, хуценька пакладзіце накіраванне, пасведчанне, страхавачны білет на пісьмовым стале і хуценька выходзьце.*

*Удалося. Хуценька, хуценька паклаў я дакументы і адышоўся з надзеяй, што ў магічным пакоі нумар адзін хтосьці прыкмеціць, што я ёсць.*

*Я змяшаўся з натоўпам чакаючых. Раптам каля мяне хлапец гадоў за дваццаць стаў бясшумна непрытомна абсоўвацца на зямлю. Адна з жанчын з чаргі кінулася ў дзверы „адзінкі”:*

*— Там чалавек млее! — крыкнула персаналу пакоя.*

*Удалося пачуць: „Зачыніце гэтыя дзверы!”. Кабета не здалася. Грымнула: „Чалавек млее!!!”.*

*Няспешна вынырнула з-за дзвярэй медсястра, выгукнула ў доўгую калідорную тхлань: „Санітар!”.*

*Санітар з'явіўся быццам бы ніадкуль і, падтрымліваючы юнака, уцягнуў яго ў „адзінку”.*

*Пасля чарговых дзесяці хвілін на шпітальны калідор уехала на калясцы, пханай мужам, жанчына. Узвівалася і плакала ад болю. Муж „паставіў” яе пад „адзінкай” і заглядаў то ў „адзінку”, то ў „двойку”, нервова пасылаючы персаналу сігнал аб жонцы. Чарга астаўбянела ў маўчанні. Ніхто з персаналу не рэагаваў. Толькі праз паўгадзіны хтосьці з „двойкі” ўрэшце запрасіў жанчыну ў пакой.*

*Праз нейкую гадзіну ў дзвярах „адзінкі” з'явілася жанчына ў кіцелі і выгукнула маё прозвішча. Я ўвайшоў. Скіравалі мяне на шпітальную гару для абследавання, між іншым, ультрагукавога. Вельмі прыгожая лекарка, ездзіўшы ўльтрагукавым прыборам па маім жываце, зіркала на экран, заўзята размаўляючы з сяброўкай, стаяўшай побач: „Калі яна не хоча, дык няхай не бярэ гэтага дзяжурства. У галаве ёй ужо пераварнулася! Няхай кіраўнічка сама бярэ тое дзяжурства!”. За некалькі хвілін абследаванне хоцькі-няхоцькі я даведаўся шмат чаго аб сітуацыі на аддзяленні. Праз некалькі гадзін чакання вынікаў абследаванняў (і так хутка, прымаючы пад увагу перагружанасць лабараторыі дзяжурнай бальніцы), атрымаў я на наступны дзень накіраванне „cito” (неадкладна) у прыбальнічную спецыялістычную амбулаторыю. Тут у рэгістрацыі сказалі мне, што гэта лекар павінен вырашыць аб прыёме. Перад яго кабінетам — наступная чарга, ужо дамоўленых. Паказаў я накіраванне „cito” медсястры, якая ў нейкі момант вынырнула з кабінета: „Калі маеце „cito”, дык ідзіце на скорую!”.*

*Я збаранеў, ды рашыў чакаць. Праз даўжэйшую хвіліну дзверы кабінета амбулаторыі ўсё ж адчыніліся перада мною. Лекарка спрабавала мяне супакоіць: „Ведаеце, яны ў бальніцы не павінны даваць „cito”. Калі вы „неадкладны”, дык няхай вас кладуць у бальніцу”.*

*Калі б было больш месца ў гэтай рубрыцы, гэтыя аповеды мог бы я цягнуць бясконца. Дарэчы, як шмат хто з вас. У бяссільнасці наконт службы здароўя прыгадваюцца мне толькі словы песенькі аднаго з сярэйлаў камерцыйнага тэлебачання: „Dalеko od noszy, od noszy najdalej. Nie choruj, omijaj szpitale”. Толькі як тут заўпарціцца і не хварэць?*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Фота і тэкст
Ганны КАНДРАЦЮК

# Бо гэта мастацкі конкурс!

Цікава, навошта беластоцка-беларускія СМІ вяшчалі, што прыйдзе табун студэнтаў, працоўная моладзь і многа ліцэістаў!? Конкурсы БГКТ вядомыя з-за жалезнай паслядоўнасці. Тут ад гадоў адны госці, адна камісія і адзін дэкор. Іх пустыя абяцанні ўжо спрацавалі ў некарысць слушнай ідэі!

Напыхлівая прапаганда да болю расчаравала ліцэістак-першакласніц. Зведзеныя абяцанкамі дзяўчаткі прыехалі ў Беласток як на паказ моды (амаль усе выступілі ў туфлях на пятнаццацісантыметровым шпілі-абцасіку). І пасля, калі на месцы сустрэлі жменьку такіх жа ліцэістак, ім не хацелася змагацца перад пустой залай. Бо як інакш растлумачыць тую абыякавасць і нуду, якая лунала над конкурсам „Сцэнічнае слова"?!

Моладасць як вясна, яна сама па сабе захапляе. Не трэба занадта сіліцца, каб паказаць дасціпнае, жывое, нават *нягжэчнае*. Добры прыклад паказаў Пятро Герасімюк, на якога ў доказ прызнання глядзелі з захапленнем сяброўкі. Але пра гэта скажам на канец, каб паказаць той сімвалічны агеньчык у тунелі...

На мерапрыемстве, якое адбылося 4 красавіка ў будынку БГКТ, выступіла дзевяць ліцэістаў з Бельска і прыблізна столькі ж з Гайнаўкі.

— Я спадзяюся, што атрымаю першае месца, — пахваліўся яшчэ перад выступленнем адзін удзельнік, — ну, можа задаволіць мяне яшчэ другое месца...

Сучасны дэкламатар думае пра сябе як пра пупок зямлі. Яму не цікавыя ні аўтар, ні твор які дэкламуе, не цікавыя яму выступленні сяброў, падказкі аўтарытэтаў. Важная ўзнагарода, прызнанне, асабісты поспех. І нават не мае намеру, каб па-за сцэнай сказаць слова пабеларуску. Выступіў і бывайце, панове! У школе атрымае яшчэ шасцёрку па беларускай мове, словам, сустрэне яго поўнае задавальненне. Праўда, апошнія словы больш дарэчы старэйшым школьнікам і хітрунам гімназістам. Ліцэісты ўжо не ахвотныя гуляць у такія „перамогі". Ім больш даспадобы сустрэчы без удзелу старых дзядзькоў і цётак, а ўжо напэўна сваіх настаўнікаў.

Аднак, што не гаварыць, конкурс „Сцэнічнае слова" трымаецца на прыстойнасці і адказнасці паасобных вучняў. Эдыта Сухар, лаўрэатка першага месца, прыехала з патрэбы сэрца.

— Ад наймалодшых гадоў я выступала на „Родным слове", — кажа ліцэістка Бельскага белліцэя. Шмат разоў прадстаўляла сваю школу ў Орлі на раённым і цэнтральным этапах конкурсу. І зараз, калі ўжо вучыцца ў ліцэі, падумала, каб аднавіць прыгоду з беларускім словам. На конкурс падрыхтавала верш Ларысы Геніюш „Беларуска".

— Чаму якраз гэты патрыятычны верш? Ці ты таксама натхняла б свайго хлопца, каб ішоў ваяваць за свабоду Беларусі?

— Мяне проста цікавіць праблема свабоды, — чую ў адказ. — Свабода неабходная, каб чалавек адчуваў сябе годна...

Эдыта спявае ў арлянскім калектыве „Вэрвочкі", таму ў яе досвед з беларускім пытаннем шырэйшы, больш спелы.

Першакласнік Пятро Шымчук у сваю чаргу ўразіў прыстойнай беларушчынай:

— У жыцці хачу стаць журналістам, таму працую над сваім вымаўленнем, — кажа першакласнік з Бельска. У ходзе размовы аказалася, што цікавяць яго творы беларускіх аўтараў, асабліва Сакрата Яновіча.

— А якія канкрэтна творы Сакрата Яновіча маеш на ўвазе?



Эдыта Сухар — з патрэбы сэрца


Адрыяна Прусіноўская — прыклад прыгожай беларушчыны

— Яшчэ не маю іх на ўвазе, — адвярнуў „ката хвастом" інтэлігентны ліцэіст, — але калі атрымаю талоны ва ўзнагароду за выступленне, то напэўна куплю ўсе кніжкі гэтага аўтара...

Адказ Пятра заставіў мяне спытаць у настаўніцы Яўгеніі Таранты пра аўтарскія сустрэчы ў ліцэі. У час сустрэчы Пятрусь даведаўся б, што яго любімы пісьменнік напісаў больш за трыццаць кніжак, і што многія з іх недаступныя ўжо на рынку.

— Сорамна пра гэта гаварыць, — кажа настаўніца, — але ў апошні час няма ў нас сустрэч з пісьменнікамі. Цікава, што вершы і прозу на конкурс „Сцэнічнае слова" ліцэістам падбіраюць настаўнікі!

— Мой настаўнік ведае, якія творы мне падабаюцца, — прызнаецца Пятро Герасімюк з Гайнаўскага белліцэя, — ён таксама знайшоў і прапанаваў мне апошні верш.

Пятрусь падабраў жартоўны верш „Родны кот" і прадэкламаваў як стары лаўрэат, значыць, выдатна. Верш Анатоля Зэкава пра каханне, што набірае рэальны кшталт, дзякуючы коціку дзяўчыны. *І я адчуў, кот пачынае мне падабацца!* Пятрусь як ніхто ўмее „ўсур'ёз" дабыць камічнасць сюжэту. Прытым робіць гэта з вялікай свабодай і адчуваннем тонкасцей.

Можна сказаць, што „Сцэнічнае слова" трымаецца яшчэ на ангажаванасці Янкі Карчэўскага. Настаўнік умее прыцягнуць да гульні хлопцаў, якія ў гэты раз паставілі тэатральную сцэнку „Суд" на аснове твора Віталя Вольскага. Выступілі яшчэ яго вучаніцы Гося Іванюк і Бася Нядзельская з жартоўнай сцэнкай пра вясковых цётачак Маню і Валю. Дзяўчаткі ад гадоў цягнуць адну тэму і, здаецца, яна ім ужо пераелася.

Нягледзячы на сціплую колькасць удзельнікаў, камісія ў саставе д-р Васіль Сегень, Іаланта Грыгарук, Яніна Плютовіч назначыла аж адзінаццаць узнагарод. Вылучэнні атрымалі Пятро Шымчук і Віялета Башун, ІІІ меса — Адрыяна Прусіноўская і Наталля Семянюк, другое — Мажэна Дзмітрук, а першыя — Эдыта Сухар і Пятро Герасімюк. У катэгорыі сцэнічных пастановак узнагароджаны былі ўсе — пастаноўка „Суд" (І месца), Гося Іванюк і Бася Нядзельская (вылучэнне).

Індывідуальныя ўзнагароды атрымалі Юстына Іванюк і Лукаш Сцепанюк.

— Ці лёгка намовіць сучасных ліцэістаў на „Сцэнічнае слова"? — спыталі мы ў спадарыні Яўгеніі Таранты. Адказ аказаўся складаным:

— У іх звычайна не хапае часу, — кажа настаўніца. — А то кантрольная па гісторыі, а то кантрольная па англійскай... На беларускую мову звычайна не хапае ўжо часу. Бо гэта мастацкі конкурс! Іншы падыход, калі ідзе пра прадметны конкурс па беларускай мове. Тут сапраўды вялікая ангажаванасць, праца, эмоцыі.


Пятро Шымчук — з думкай пра прафесійнасць



„Суд"


Пятро Герасімюк — непаўторны, колкі жартаўнік

## У нас „Ніву” чытаюць старэйшыя жыхары

Настаўнікі, радныя, солтысы і карэспандэнты „Нівы” могуць шмат зрабіць, каб павялічыць колькасць чытачоў нашага роднага штотыднёвіка. Мне — як солтысу і карэспандэнту — вельмі залежыць, каб „Ніву” чыталі ў Ляўкове і ў навакольных вёсках. Стаўлю сабе задачу і выконваю. А летам зраблю яшчэ больш. Наведаю больш вёсак на ровары і загляну ў крамы, дзе прадаюць беларускі тыднёвік.

І так, усе экземпляры, а было іх шэсць, „Нівы” № 13 ад 25 сакавіка г.г., якія прывезлі ў краму ГСу ў Старым Ляўкове, купілі. Калі выйшаў з друку 14 нумар „Нівы” ад 1 красавіка г.г., я ездзіў роварам у Старое Ляўкова, Плянту і Нараўку. Распытваў жыхароў вёсак, хто купіў бы нашу беларускую газету. Распавёў, пра што ў ёй можна прачытаць. І што думаеце, варта было! У Старым Ляўкове купілі ўсе шэсць экземпляраў, а ў Плянце было 11 экземпляраў і купілі сем, у Нараўцы ў краме ГСу пры помніку былі два экземпляры і купілі адзін.

Паводле маіх падлікаў, зараз у Новым Ляўкове „Нівай” зацікаўленых 12 пажылых чытачоў, у Старым Ляўкове — 7, у Плянце — 5, у Лешуках — 3-4, а ў Падляўкове, Ахрымах, Капітаншчыне ды ў Міхнаўцы — па 1. Бывае, што ў крамах у Плянце і ў Нараўцы „Ніву” купіць вучань нараўчанскай школы. Пастаянныя падпісчыкі пражываюць у Старым Ляўкове, Новым Ляўкове, Плянце, Лешуках і Міхнаўцы.

Даю абяцанне, што „Ніву” №№ 15 і 16 (гэта святочны велікодны нумар) мы тут — у Ляўкове, Пляце і Нараўцы — купім усе экземпляры, якія прывязуць у крамы на продаж.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## За „Чарамшынай”

5 сакавіка рушыў дзевяты выпуск інтэрнэт-плебісцыту на найлепшую фолькавую кружэлку „Віртуальныя гуслі” за 2011 год. Сёлета паступіла аж восемдзесят шэсць заяў ад гуртоў, якія прамуюць свае кружэлкі. Гэта багаты плён на ніве фолькавай творчасці, зважыўшы, што кампакт-дыскі былі выдадзены айчыннымі фанаграфічнымі фірмамі ў перыядзе апошняга года. Кожны з інтэрнаўтаў можа штосьці сабе выбраць. А ў прапанове джазавая і рокавая музыка, традыцыйныя і цяперашнія мелодыі ў сучаснай аранжыроўцы. Каларыту выкананню прыдае электронная і акустычная тэхніка. Удзельнікі плебісцыту дадаткова маюць магчымасць указаць на самую цікавейшую вокладку кампакт-дыска. Варта адзначыць, што гурт „Чарамшына”, які з'яўляецца арганізатарам і заадно гаспадаром Міжнароднага фольквага фестывалю „Сустрэчы з вясковага панадворка” быў першым лаўрэатам „Віртуальных гусляў” за 2003 год. Прызнанне інтэрнаўтаў гурт заваяваў за кружэлку „Гуляй пака час”.

Сёлета „Чарамшына” прапануе два кампакт-дыскі: „Czeremcha Visegrad Wave / Z wiejskiego podwórza 2011” і „Czym chata bogata”. Асабліва рэкамендую другую кружэлку, бо тут сапраўды цудоўныя мелодыі. А ёсць іх аж шаснаццаць. Галасаваць можна да 21.04.2012 г. да поўначы на сайце: http://www.gesle.folk.pl

**Уладзімір СІДАРУК**

# Школа ў Арэшкаве
## атрымае поўную субвенцыю

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



— Я прапаную пакінуць праект пастановы аб субвенцыі ў формуле, якая нам прадстаўлена, каб не растрасаць яе непатрэбна. Калі б у верасні аказалася, што пабольшае колькасць вучняў у школе ў Арэшкаве, тады прапаную вярнуцца да праблемы, — заявіў радны **Уладзімір Галёнка** (стаіць на здымку) і радныя прагаласавалі за праект пастановы, прапанаваным гміннымі ўладамі наконт субвенцыі для арэшкаўскай школы

**З дзейнасці Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве задаволены вучні і бацькі, якія асабліва моцна ангажаваліся ў яе сарганізаванне і дапамагаюць у яе працы. Родзічы згадзіліся, што ад 1 верасня да 31 снежня 2011 года субвенцыя на кожнае іх дзіця ў арэшкаўскай школе будзе налічвацца ў гміннай управе ў Гайнаўцы паводле сярэдняй для ўсіх вучняў у гміне. Аднак калі настаў 2012 год і субвенцыя на арэшкаўскую школу налічвалася надалей паводле мінулагодніх прынцыпаў, бацькі сталі патрабаваць, каб гмінныя ўлады пабольшалі субвенцыю для іх школы да ўзроўню, які належыцца для 20 вучняў, якія ўсе ходзяць на заняткі беларускай мовы, згодна з налічванымі Міністэрствам адукацыі сумамі. Радны Уладзімір Галёнка з Пасечнікаў заяўляў, што некалькі разоў рабіў захады, каб быў падрыхтаваны адпаведны праект пастановы і каб радныя прагаласавалі за пералічванне ўсёй субвенцыі з Міністэрства адукацыі, належнай на навучанне дзетак у Арэшкаве, якія вучацца беларускай мове. Праект такой пастановы быў падрыхтаваны на сесію Рады Гайнаўскай гміны, якая адбылася 29 сакавіка. Прыбылі на гэтае пасяджэнне, між іншым, бацькі арэшкаўскіх вучняў, каб падтрымаць сваіх радных у змаганні за атрыманне пабольшанай субвенцыі.**

— Мы думалі, што ад 1 студзеня 2012 г. пачнуць налічваць нам пабольшаную субвенцыю аўтаматычна, у адпаведнасці са спосабам налічвання субвенцыі на кожнае дзіця, што ў вясковай школе вучыцца мове нацыянальных меншасцей, у нашым выпадку беларускай мове. Калі я даведаўся, што змена не можа адбыцца аўтаматычна, яшчэ ў канцы мінулага года стаў прапанаваць увесці на пасяджэнне бліжэйшай сесіі Рады гміны праект пастановы аб павелічэнні субвенцыі для нашай школы да такога ўзроўню, які нам належыцца згодна ўказанням Міністэрства адукацыі. Аднак увядзенне маёй прапановы ў парадак дня сесіі адцягвалася. Сказалі мне, што ўвядзенне змен павінна адбыцца па прапанове камісіі асветы, якая цяпер падтрымала маю прапанову. Калі радныя прагаласуюць за прапанову камісіі асветы і паколькі ў нас усе 20 вучняў ходзяць на заняткі беларускай мовы, разлічваем што месячная датацыя на кожнае дзіця пабольшае ў выпадку нашай школы на больш за 200 зл., — гаварыў яшчэ да згаданай сесіі радны Уладзімір Галёнка і заадно бацька вучня арэшкаўскай школы. Пасля ўдакладніў ён, што сярэдняя месячная субвенцыя ў гміне на аднаго вучня складае 983 зл., а субвенцыя на вучня, які ходзіць на заняткі беларускай мовы, гэта 1204 зл. Калі гэтую суму перамножыць праз 20 вучняў і яшчэ праз 12 месяцаў, то атрымліваецца, што субвенцыя на дзейнасць Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве павінна пабольшаць у маштабе года на больш за 50 тысяч зл.

— Аднак на некалькі дзён да сесіі я атрымаў інфармацыю з гміны, што ў прапанове, якая будзе ставіцца на галасаванне ў час сесіі, будзе ўведзена папраўка. Прапануецца, што калі ад верасня 2012 г., значыць у наступным школьным годзе, колькасць вучняў у арэшкаўскай школе будзе такая самая як цяпер або паменшае, то пабольшаная субвенцыя, у пераліку на кожнага вучня, будзе пералічвацца нашай школе ажно да канца 2012 г. Калі аднак колькасць вучняў у школе ў Арэшкаве пабольшала б у наступным школьным годзе, тады фонд «Кая», які арганізаваў і вядзе нашую школу, атрымліваў бы ад 1 верасня да 31 снежня 2012 г. паменшаную субвенцыю на кожнага вучня, сярэднюю для ўсёй гміны. Гэта нам нявыгадна, бо калі ў іншых школах нашай гміны многа вучняў не ходзіць на заняткі беларускай мовы, то субвенцыя Міністэрства адукацыі на гэтых вучняў больш чым удвая меншая ад субвенцыі, якую прызначаюць на вучня, што ходзіць на заняткі беларускай мовы. Сярэдняя субвенцыя ў гміне на аднаго вучня заўважальна ніжэйшая ад сярэдняй на вучня, што вучыцца беларускай мове, — тлумачыў радны Уладзімір Галёнка.

Хаця на сесію прыехалі бацькі арэшкаўскіх вучняў і некаторыя спадзяваліся бурнай дыскусіі ў справе субвенцыі для школы ў Арэшкаве, дыскусіі ў гэтай справе амаль не было. Пасля выступлення Галіны Шыманюк, кіраўніка Бюро абслугі самаўрадавых школ Гайнаўскай гміны, якая растлумачыла сэнс праекта пастановы аб змене субвенцыі для Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве, радны Уладзімір Галёнка запрапанаваў прыняць прапанаваны праект.

— Я прапаную пакінуць праект пастановы аб субвенцыі ў формуле, якая нам прадстаўлена, каб не растрасаць яе непатрэбна. Калі б у верасні аказалася, што пабольшае колькасць вучняў у школе ў Арэшкаве, тады прапаную вярнуцца да праблемы (атрымлівання арэшкаўскай школай сярэдняй для ўсёй гміны субвенцыі на аднаго вучня — А. М.), — заявіў радны Уладзімір Галёнка. Радныя прагаласавалі за праект пастановы, прапанаваны гміннымі ўладамі наконт субвенцыі для арэшкаўскай школы.

— Згодна з прынятай сёння пастановай Непублічная школа ў Арэшкаве, дзе ўсе 20 вучняў ходзяць на заняткі беларускай мовы, будзе атрымліваць, лічыўшы з 1 студзеня г.г., субвенцыю, якая належыцца вучням, што вучацца мове нацыянальнай меншасці. Калі аднак ад 1 верасня колькасць вучняў у гэтай школе пабольшае, тады будзем перадаваць на кожнага вучня ў школе ў Арэшкаве сярэднюю для нашай гміны субвенцыю на вучня, — гаварыла пасля сесіі Галіна Шыманюк, кіраўнік Бюро абслугі самаўрадавых школ Гайнаўскай гміны. — Справа ў тым, што мы з Міністэрства адукацыі атрымліваем субвенцыю на каляндарны год. Калі ад верасня большае колькасць вучняў у нашай гміне, якія вучацца беларускай мове, нам не дадаюць дадатковых грошай на іх адукацыю, толькі, на падставе дадзеных з верасня, большаюць субвенцыю з наступнага каляндарнага года. Калі б пабольшала колькасць вучняў у школе ў Арэшкавае ў наступным школьным годзе, то поўную субвенцыю для пабольшанай колькасці вучняў пачнем перадаваць толькі са студзеня 2013 г. Ад верасня да снежня гэтага года вучні атрымлівалі б сярэднюю субвенцыю для нашай гміны ў пераліку на вучня.

— Зараз добрыя ўмовы навукі ў школе ў Арэшкаве. Дабіліся мы поўнай субвенцыі, якая нам належыцца, а калі б пабольшала колькасць вучняў у нашай школе, тады ў верасні вернемся да гэтай справы, — гаварыў пасля сесіі Уладзімір Галёнка. — Будзем змагацца за школу ў Арэшкаве, якая інтэгруе нас, бацькоў, вакол супольнай справы.

— Мы хацелі б, каб у нашай школе пабольшала колькасць дзетак і каб нам да канца года давалі на кожнага вучня субвенцыю, якая належыцца, калі вучні ходзяць на заняткі беларускай мовы, — сказала маці арэшкаўскіх вучняў Іаанна Куптэль. — Мае дзеці вельмі задаволеныя вучобай у нашай школе. Мая пяцігадовая дачка не хоча вяртацца дамоў, калі я заязджаю па яе ў школу. Сын таксама задаволены працай настаўнікаў і атмасферай у школе. У нашай непублічнай школе ладзіцца многа мерапрыемстваў. Былі *Анджэйкі*, Дзед Мароз прынosіў падарункі ў час навагодняй ёлкі, арганізавалі ў школе свята бабулям і дзядулям, якія вучылі дзетак нашых прымавак і песень.

— Нашыя вучні тапілі куклу на Дзень вясны, удзельнічалі ў экалагічным конкурсе. Наладзілі мы дзеткам конкурс з нагоды надыходзячага Вялікадня, — гаварыла іншая маці Анэта Красько.

— Мы павінны дамагацца сваіх правоў, каб перадавалі нам субвенцыю ў ста працэнтах, — дабавіла Анна Галёнка з Пасечнікаў.

— Калі трэба будзе галасаваць, каб у верасні пабольшаць субвенцыю для школы ў Арэшкаве, я напэўна прагаласую за гэта, бо трэба, каб дзеткі вучыліся беларускай мове і падтрымлівалі свае традыцыі, — заявіла пасля сесіі радная з Ліпін Алімпія Балтрамюк.

— Атмасфера ў школе добрая, бацькі нам многа памагаюць. Ладзім многа мерапрыемстваў, стараемся выходзіць да вучняў з рознымі прапановамі, — сказала настаўніца пачатковага навучання і беларускай мовы ў Арэшкаве Ірэна Герасімюк.

Язэп ПАЛУБЯТКА

# Абразы як феномен беларускай адметнасці

Яны спрадвеку існавалі, існуюць зараз ды будуць існаваць заўжды ў стасунках беларусаў між сабою. Калі казаць дакладна, то абразы — гэта кароткія, прыкрыя, іншы раз непрыстойныя выказванні пра чалавека, яго ўчынкі, паводзіны, знешні воблік.



Фота архіў „НІВЫ"

Абразы могуць быць устойлівыя ці выпадковыя. Апошнія ўжываюцца згодна з абставінамі. Устойлівыя („як гразь прыстала") звычайна паўстаюць у абмежаваным асяроддзі: вёска, праца, школа, садок і т.д. Імі „ўзнагароджваюць" мужык жонку і наадварот, сваякі сваяка, сябар сябра, сусед суседа (хутчэй суседка суседку), знаёмыя адзін аднаго і т.д. Да ўстойлівых абразаў можна аднесці і мянушкі. Яны на пэўным этапе ўжывання могуць быць абразамі, але праз некаторы час могуць, не саромячыся таго слова, стаць візітоўкай чалавека. Гэта я адчуў на сабе. Аднойчы ехаў цягніком з Менска ў Гародню. У Лідзе насупраць мяне сеў пасажыр, чалавек сталага веку. Знешне я пазнаў яго, як і ён мяне. Разгаварыліся. Называю прозвішча, імя бацькі ды маці, хутар, дзе яны жылі. Не разумее. Не вытрываў і кажу: „Я — Ёзіка Ганчуковага сын". Паразуменне ўзнікла ўмомант. Чалавек адразу распавядаў, як купіў у Шчучыне на базары ў бацькі добрую карову і колькі разоў прыязджаў да нас пагасціць. „Ганчук" — напачатку абраза майго дзеда, якая потым стала мянушкай і навакольнай яго візітоўкай. А справа была ў тым, што мой дзед Іван і баба Наталля з'ехалі напачатку XX ст. у Амерыку. Абставіны скаліся так, што перад Першай сусветнай вайной яны вымушаны былі вярнуцца дамоў. Бацькоўская хата згарэла, застаўся ганак і напачатку па вяртанні маладая сям'я знайшла там прытулак. Вось так Іван Палубятка стаў Ганчуком і дзецям яго ды ўнукам перадалося гэта вызначэнне роду.

Тое, яскравы прыклад узнікнення абразаў і мянушак.

Таму прычыны ўзнікнення абразаў (мянушак) самыя разнастайныя. І класіфікаваць іх можна. Найперш па прызнаку чалавечых недахопаў. Яны самыя ўстойлівыя і пераследуюць чалавека на працягу жыцця. Вось некаторыя з іх: **„клышаногі"** ці **„крываногі (-ая)"** (чалавек, у якога крывыя ці калекія ногі); **„кныш"** (невялікага росту чалавек); **„сляпняк"** (недахоп зроку); **„глушняк"** (недахоп слыху); **„без'языкі"**, **„кілька"** (праблемы з моваю); **„немец"** (нямко); **„тычка"** ці **„жэрдка"** (характар высокага росту). Сюды можна аднесці **„кілун"**, **„здыхляк"**, **„селядзец без кішкі"**, **„мардаварот"**, **„рашка"** (вялікая галава), **„рабы (-ая)"**, **„бэбах"**, **„вантроба ненасытная"**, **„курэль"** (худы чалавек) і шэраг іншых. Яны могуць ужывацца ўстойліва з імем. Напрыклад: **„рабы Пятрук"**, **„Маня-бэбах"**.

Вольныя паводзіны мужчыны і жанчыны характарызуюцца непрыстойнымі выказваннямі.

Абразы паходзяць ад недарэчных чалавечых паводзінаў: **„пстрычка"** (вяртлявая дзяўчына); **„ляпа сабачая"** (кажуць пра тых, хто шмат енчыць); **„скаралупец"** (хлопец, які не шануе апратку); **„недапечаны"**, **„недароблены"** (чалавек вялы, запаволены ў дзеяннях); **„страхалюддзе"** (неахайны чалавек); **„патлаты"** (даўгавалосы, непрычэсаны). Абразы могуць характарызаваць сацыяльны стан чалавека ці яго паходжанне: **„байструк"** ці **„байстручка"** (дзіцё без бацькі); **„бульбаш"**, **„лях"**, **„маскаль"**, **„хахол"**, **„кітаёза"** (нацыянальная прыналежнасць асобы).

Сюды можна аднесці і выказванні пра чалавека па расавым прызнаку. Рабіць класіфікацыю адносна гэтых выказванняў не толькі неэтычна, але і немэтазгодна, бо ў адным выпадку тое можа быць абразай, у іншым мянушкай ці сяброўскім жартам.

У якасці абразаў выкарыстоўваюцца таксама назвы жывых істот: **„скаціна"** ці **„скаціна бязрогая"** (характарыстыка чалавека дрэнных паводзінаў), **„каза"**, **„казёл"**, **„пятух"** і т.д. (характарызуюцца паводзіны чалавека, якія адпавядаюць паводзінам жывёлы). Да гэтай катэгорыі можна аднесці і такія абразы, як **„курыца"** ці **„курыца абмоклая"**, **„свіння"** ці **„свіння рабая"**, **„свіння няскрэбаная"**. А яшчэ прыкрай — **„карова раздзёртая"**, **„быдла"**. Ужываюцца таксама назвы дрэў і іншых раслін: **„дуб"**, **„пень"** (цяжкадумаючы чалавек), **„пень трухлявы"**, **„пень стары"**, **„масляк разгляблы"** (абрузлы чалавек).

Мянушкі іншы раз характарызуюць як знешняе падабенства, так і падабенства чалавека ў паводзінах з пэўнай знакамітаю асобаю ці літаратурным персанажам: **„Гітлер"**, **„Ленін"**, **„Сталін"**, **„дзед Талаш"** (чалавек з доўгаю барадою) і т.д.

Ёсць шэраг абразаў, якія паводле сэнсу ўжывання можна аднесці да некалькіх вышэйпералічаных тыпаў: **„мурзаты"** ці **„мурзатая"**. Імі можна характарызаваць знешні недахоп чалавека, смуглы твар ці вызначаць яго паходжанне (негр). Сюды можна аднесці, як **„чорт"**, **„хамут"**, **„хамут чортаў"**, **„неўдаль"**, **„кароста"**.

Ёсць і такія абразы, якія нельга аднесці ні да адной з вышэй названых. Іх ужываюць выключна да пэўнай асобы і ў абмежаванай мясцовасці. Гэта такія як **„догель"**, **„загелзаны"**, **„памяло"** (барадаты мужчына).

Здараюцца выпадкі, калі абразы (мянушкі) ужываюцца ў адваротным сэнсе: **„вялікім"** называюць чалавека малога росту і наадварот, **„дужы"**, **„асілак"** (хілы чалавек), **„каралева"** ці **„харашуха"** (непрыгожая жанчына ці дзяўчына).

Абразы (праклёны) прадстаўляюць adносіны беларусаў у пэўных стасунках між сабою. У пэўнай ступені яны вызначаюць нашу адметнасць ад іншых народаў. І слушне заўважыць, што ў кожным рэгіёне Беларусі абразы (мянушкі), акрамя агульнага, маюць сваю адметнасць.

## Таямнічыя надпісы на белавежскай школе



Нейкі час таму мой муж вярнуўся з цэнтра Белавежы ды пытае: „Што ж гэта за надпісы на будынку школы, ля ўвахода?". Дык настаўнік гэта добрая крыніца інфармацыі не толькі пра школу, але пра розныя лакальныя здарэнні ўвогуле. „Willkommen, Welcome, Benvenuto, Salut, Sveiki, Bine ativenti, Hosgeldiniz, Добре дошъл" — не толькі паліглот можа здагадацца, што яны абазначаюць „Сардэчна вітаем!". Каляровыя надпісы на розных мовах не адзіная рэч, якая прыцягвае ўвагу ў белавежскай школе. У сярэдзіне будынка пачатковай школы і гімназіі на калідорах вісяць сцягі розных дзяржаў, на галоўным холе адна са сцен аздоблена прыгожым малюнкам белавежскай панарамы. Проста весялей, чым заўсёды. Дык якая прычына гэткіх змен? Якія гэта мовы ды якіх краін сцягі? Надпісы запрашаюць у школу на балгарскай, французскай, італьянскай, румынскай, літоўскай, турэцкай, нямецкай і англійскай мовах. Сцягі гэта сімвалы Бельгіі, Італіі, Румыніі, Літвы, Германіі, Турцыі, Балгарыі і Польшчы. Чаму ж гэткі выбар? Загадку раскрывае інфармацыя пра праграму „Comenius". Назва прагамы гучыць дзіўна, аднак паходзіць яна ад прозвішча чэшскага педагога XVII стагоддзя Яна Амоса Каменскага. Некаторыя наракаюць, што ў Белавежы нічога не адбываецца, асабліва ў пачатковай школе ды гімназіі. Аказваецца аднак, што Публічная гімназія ў Белавежы прымае ўдзел у адукацыйнай праграме „Comenius", у рамках якой школы з многіх еўрапейскіх дзяржаў супрацоўнічаюць ды абмеьваюцца вопытам. Дзяржавы, якіх сцягі вісяць на калідорах белавежскай школы, гэта краіны-партнёры. У 2010-2012 гадах белавежская гімназія ў рамках праграмы рэалізуе праект „Турыстычная адукацыя як элемент прамоцыі нашых рэгіёнаў". У сувязі з гэтым на пачатку сакавіка гэтага года белавежскі школьна-дашкольны комплекс меў гасцей з усіх сямі краін-партнёраў, з якімі Польшча супрацоўнічае. Сваіх калег белавежскія школьнікі прывіталі ў беларускіх народных касцюмах. Вучні разам з апекунамі паказалі еўрапейскім сябрам цікавейшыя месцы на Падляшшы (запаведнік ды музей Белавежскага нацыянальнага парку, Грабарку, Музей вёскі ў Цеханоўцы, Супрасль, Тыкоцін ды Кермусы). Паводле слоў Мар'ёлі Гленцнэр, каардынатаркі праекта, супрасльскі музей ікон усім моцна спадабаўся. Апрача азнаямлення з турыстычнымі каштоўнасцямі рэгіёна ўдзельнікі праекта мелі магчымасць скарыстацца белавежскай навуковадаследчай базай у Інстытуце млекакормячых і паразмаўляць з мясцовым даследнікам ды аўтарам кніжак для дзяцей Тамашам Самойлікам. Візіт у Белавежу не мог, вядома, абысціся без бясeды ля кастра. Раней белавежскія вучні разам з апекунамі наведалі горад Альба-Юлія ў Румыніі ў 2010 годзе ды Крыспіяна ў Італіі і Швабах у Германіі ў 2011 годзе. Як відаць, нават вясковая школа дае магчымасць пазнаваць свет.

**Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі

# Найлепшая мастацкая частка!


Фота Міры ЛУКШЫ


Фота Міры ЛУКШЫ

Калі мы ў садку, усе хочам быць спевакамі, акцёрамі, музыкантамі. У гэты час усё захапляе, усё падабаецца. Шчырасць і жыццярадаснасць дае натхненне, крылы. І добра, калі наш аптымізм прыкмеціць настаўнік, пакіруе здольнасцямі.

Дзень 25 сакавіка запамятаецца ўсім з-за бліскучага выступлення дзяцей з беларускага садка ў Беластоку. А ўжо Колька Здрайкоўскі перайшоў усе спадзяванні. Ён выбег на сцэну „з бас-гітарай" і паказаў, значыць заспяваў, „Як Яраслаў суп згатаваў"!

Песня ў стылі рок узнікла на словы Віктара Шведа, музыку напісаў музыкант Павел Васькоўскі, бацька адной з дашкольніц. Менавіта песні беластоцкіх дзяцей уражваюць свежасцю, сучасным гучаннем, непаўторнасцю. А гэта таму, што самі настаўнікі і бацькі прыдумваюць аранжыроўкі на сучасныя вершы. У каларытнай падборцы песень і танцаў дашкольнікі заспявалі чатыры песні на словы Віктара Шведа і Міры Лукшы. Наша рэдакцыйная сяброўка спецыяльна для прадшколля прыдумала верш пра найлепшы дзіцячы аркестр у горадзе Беластоку! А натхненнем для яе былі нашы музыкальныя дзеткі з садка.

Канцэрт гэта нагода паказаць таленты і сцэнічныя з'явы. Побач згаданага Міколкі Здрайкоўскага, які захапіў сцэнічнай арыгінальнасцю, запрэзентаваліся таксама салісты і дуэты. Цудоўна заспявала Юстына Бакуменка, у якой чысты, моцны голас і дасканалае адчуванне рытму. Энергічна і надта баявіта прагучэў дуэт Марыся Пякарская і Ася Тамчук.

Увесь рэпертуар наклікаў доўгачаканую, каляровую вясну і весялосць. Гэтае мілагучнае слоўца вельмі дарэчы. У прадшколлі працуе музычны гурток „Вясёлка". У ім спяваюць ужо чарговыя пакаленні дашкольнікаў, многія іх песні сталі дзіцячымі шэдэўрамі.

На свята Незалежнасці Беларусі запрэзентавалася старэйшая група дзяцей, якую падрыхтавалі настаўніцы Эва Гняздоўская і Альжбета Баравік.

Пасля іх з патрыятычным музычна-паэтычным мантажом выступілі дзяўчаткі з ПШ № 4, якія раней спявалі ў беларускім прадшколлі. Пра іх можна сказаць толькі найлепшыя словы. Па сённяшні дзень у маёй галаве гучаць патрыятычна-рэлігійны гімн „Магутны Божа" ў выкананні Юлі Іванюк і „Не пагаснуць зоркі ў небе", якую заспявала Зося Конюх.

Уражаннямі ад выступленняў нашых дзяцей падзяліўся паэт Віктар Швед:

— У гэтым годзе была найлепшая мастацкая частка, — сказаў ён, — усё было на тэму і вельмі старанна, прыгожа падрыхтавана.

Цешыць, што ўся мастацкая праграма была пастаўлена на здольнасцях і працы нашых дзяцей, моладзі, настаўнікаў, творцаў.

**ЗОРКА**

# Конкурс пра вясну (16)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якая птушка першай прылятае з выраю?**
*а) сарока, б) зязюля, в) шпак.*

**2. Якая птушка з'яўляецца сімвалам вясны?**
*а) ластаўка, б) галка, в) фазан.*

**3. Якая птушка лічыцца сімвалам Беларусі?**
*а) грак, б) сава, в) бусел.*

**4. Хто аўтар жартоўнай паэмы „Журавель і чапля"?**
*а) Кандрат Крапіва, б) Максім Танк, в) Віктар Швед.*

Адказы дасылайце да 22 красавіка 2012 года (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 12:** Месца, звязанае з культам св. Дзмітрыя на Падляшшы — Сакі (в); жыхары Сакоў выводзяцца з баяраў (а); лаўрэатамі першага месца сёлетняга конкурсу гавэнды сярод гімназістаў сталі Уля Беразавец з Ласінкі і Лукаш Марчук з Нараўкі (а і б); найбольш лаўрэатаў прадметнага конкурсу па беларускай мове ў катэгорыі гімназій заваявалі Бельск і Нараўка (а). Узнагароду, кніжку з падляшскімі дзіцячымі вусна-паэтычнымі творамі ***Як выскочыў вераб'ей***, выйграла **Наталля Марчук** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Галерэя Зоркі


Фота Ганны Кандрацюк

**1. Імя і прозвішча:** Данель Мінько (ПШ у Нарве).
**2. Твой любімы прадмет:** фізкультура.
**3. У жыцці хачу стаць:** варатаром (bramkarzem).
**4. У сяброў цаню:** сімпатычнасць, калі адны другім дапамагаюць.
**5. Не люблю:** разбою і агрэсіі.
**6. Па-беларуску размаўляю:** з бабуляй і татам.
**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** «Хронікі Нарніі».
**8. Падабаецца мне музыка:** дыска-пола.
**9. Твае ўлюбёныя стравы:** адбіўныя катлеткі.
**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** футбол.
**11. Калі дарасту, хачу жыць:** яшчэ не ведаю.

# Вершы Віктара Шведа

## Ідэальная пара

Адам з Евай на зямным абшары
Былі ідэальнаю парай.
І хоць выгнаны з раю Богам,
Жылі згодна, хоць надта ўбога.

Ева не казала Адаму,
Што лепш магла б выйсці замуж,
А Адам не бурчаў па-парадку,
Што смачней варыла яго матка.

## Будуць сапраўдныя канікулы!

У вёску прыбыла Гануля
З гарэзным братам Жэнькам.
— Ці маеш ванную, бабуля?
— Не маю, даражэнькія.

— Дзякуй, — сказалі нечакана, —
Што ў вёску нас паклікала.
А калі мы не маем ваннай —
Будуць сапраўдныя канікулы!

(легенда каўказскага народа гіналюг)

# Святое азярцо

Сяло Гіналюг да нядаўна здавалася быць прыхаваным ад свету. Прыезджыя дабіраліся сюды па горскіх сцежках Шахдага і Гызыл-гаі, заўсёды з дапамогай мясцовага горца. Мясціна ад вякоў славілася цудоўным азярцом.

У сонечны дзень можна прыкмеціць як у азярцы „іграе" вада. Азярцо знаходзіцца ў пячорцы, куды праз шчыліну прабіваюцца сонечныя прамені. Навокал вады, як у нашай пушчанскай Крынаначцы, павешаны латкі тканіны. У азярцы нельга купацца і мыцца. Звычай дазваляе адно намачыць латок і прамыць ім хворыя месцы. Тканіну „з закладзенай хваробай" трэба пакінуць на скалах або на агароджы, каб ачысціў яе дух месца.

Азярцо, як верыць народ гіналюг, дапамагае нараджаць дзяцей. Хворыя жанчыны прыходзяць ноччу. Яны чатыры разы праходзяць праз шчыліну пячоры з адпаведнай замовай на вуснах. Народ гіналюг не памятае калі дакладна нарадзіўся культ святога азярца, але з яго пачаткам звязана легенда. Даўным-даўно ў навакольных горах жылі сорак справядлівых мужоў. Яны былі самыя разумныя, самыя справядлівыя, самыя богабаязныя. Усё дабро дзялілі між патрабуючых. Чалавек, не агледзішся, прывыкае да лепшага. Так сталася з дабрынёй сарака мужоў. Іх высакароднасць і дабрыня з часам падалася звычайнай. Людзі перасталі іх цаніць, шанаваць. Яны захапляліся сабой, сваім поспехам, прыбыткам. Але бяда не спала, яна прыйшла ў час, калі ніхто яе не чакаў, не спадзяваўся. Вось у адно лета нахлынула пошасць з боку Дагестана. Людзі мерлі як мухі. Іх не паспявалі хаваць. На зямлі запанаваў плач і адчай. І тады з гор выйшлі на ратунак сорак справядлівых. Яны, як адзін муж, загукалі на ўсе грудзі горскую песню, прасякнутую духам зямлі і чалавечых сэрц. Лячэбныя гукі песні ўміг разагналі заразу. А ацалелых з мору лячылі вадой з азярца ў пячорцы. Так нарадзілася слава і мудрасць месца.

Цудоўнае азярцо часта дзейнічае без нашай свядомасці. Гэтакі выпадак апісаў рэпарцёр Войцех Гурэцкі ў кніжцы „Планета Каўказ". Аўтар дабраўся ў Гіналюг і наведаў цудоўнае месца. Некалькі гадзін пасля ў яго з'явілася гарачка і невыносны боль. У вачах стала смерць. Не дапамагалі найлепшыя лякарствы. Свядомасць канчыны, як прыкмеціў рэпарцёр, не надта хвалявала яго. Ён паміраў і адначасова мірыўся з фатальным выпадкам. Усё трывала нейкія трыццаць хвілін, пасля чаго падарожнік раптоўна аздаравеў. Тое ж самае адбылося з яго сябрам. Гаспадар, у якога спыніліся падарожнікі, павіншаваў іх з удачай:

— Цяпер ты здаровы, — сказаў ён, — святое азярцо забрала вашыя хваробы! Магчыма, вы і не ведалі пра іх існаванне...

ЗОРКА

**Народ гіналюг налічвае дзве тысячы жыхароў і жыве толькі ў адной архаічнай вёсцы (на вышыні 2300 м). Іх мовы не разумеюць у Азербайджане і нават у суседніх вёсках. У мясціне дзве мячэці, адной з іх за тысячу гадоў. Мусульманская рэлігія і народныя павер'і тут зліліся ў адну плынь і дапоўніліся. Гіналюг мае свой алфавіт, у якім 77 літар, запісаных кірыліцай (на ёй узнікла некалькі літаратурных твораў). За савецкіх часоў у вёсцы быў калгас, які спецыялізаваўся ў авечкагадоўлі. Зараз у Гіналюг вярнуліся натуральныя формы гаспадаркі. Разам з пабудовай асфальтаванай дарогі моладзь пачала масава пакідаць вёску і з'язджаць з яе назаўсёды ў азербайджанскія гарады, прымаючы там культуру большасці.**

# Музыка з кайфам

## Хлопец наш Вася...

Напісаць сёння гіт — даволі складаная справа. Па-першае, складана здабыць сабе публіку сярод тысячаў выканаўцаў. З другога боку маем механізм, які дазваляе нават найменшым, незалежным, невядомым выканаўцам заіснаваць перад мільённай публікай. Гэты механізм называецца інтэрнэт і выдатна яго скарыстаў Вася Абломаў.

Вася Ганчароў (гэта сапраўднае прозвішча вакаліста) нарадзіўся 28 гадоў таму ў Растове-на-Доне. Па адукацыі ён юрыст, але, відаць, музыка дыназіранне за абсурдамі жыцця стала яму цікавейшым за юрыспрудэнцыю. Гэта вельмі музыкальны чалавек, якому простымі сродкамі атрымліваецца поўная ў музычным сэнсе канструкцыя. А гэтага можа дасягнуць толькі інтэлігентны, вопытны чалавек. Да 2010 года выступаў толькі як лідар гурту „Чебоза", але вырашыў зрабіць нешта на сольным полі і так з'явіўся містэр Абломаў. Гэты малайчына прыехаў нядаўна ў Менск, каб выступіць і падтрымаць людзей, бо ён, карыстаючыся папулярнасцю, адважна каментуе недарэчнасці рэчаіснасці.

У 2010 годзе ў інтэрнэце з'явіўся анімацыйны відэасюжэт на песню „Магадан" і такім чынам пачалася сур'ёзная кар'ера выкаліста. Пачалося шаленства вакол сімпатычнага, стрыманага і адначасова вострага выканаўцы. Год пасля слухачы маглі ўжо набыць паўнавартасны альбом Васі „Раманы і расказы". Дэбютная песня хутка пераканала не толькі сваім відэасюжэтам, але і музычнай формай, бо песня пачала ўзначальваць гіт-парады, а Вася стаў аўтарам песні года.

Відэа для яго творчасці мае значэнне, падкрэслівае чыстую, мастацкую форму прынятай ім канцэпцыі ды яно глядзіцца.

Вася Абломаў, калі пачынаеш слухаць яго песні, здаецца быць проста тваім сябрам. Расказвае, што яму ляжыць на душы. Да гэтага перавага акардэона ў аранжыроўках вядзе да таго, што адчуваеш сябе не як на канцэрце, а проста на сустрэчы са сваякамі. Вось такі той Вася, проста наш!

i_basovka@o2.pl

*Якуб Колас*

## Першы гром

Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары.

Гай страсянуўся, дрыгнула поле,
Долы той гук паняслі.
У гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасць зямлі.

У грукаце гэтым многа ёсць сілы,
Чуецца моц і прастор...
Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш смех паміж гор.

# Польска-беларуская крыжаванка № 16

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеенным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку № 12:**

**Пуп, кліпс, сі, патрон, драбіна, набой, ар, сонейка, то, вясёлка, кон, воўк, рой, выспа. Вясна, сяло, нос, суп, анёл, падбел, тройка, крайка, лоб, вы, сіні, кос, натоўп, старонка.**

**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Эва Саковіч з Нараўкі, Патрыцыя Міхальчук, Габрыель Кузьмін, Магдаліна Навіцкая з Бельска-Падляшскага, Раксана Аврчук, Маргарыта Галёнка з Арэшкава, Міхал Тамашук-Спірыдовіч, Агата Яканюк, Вераніка Пташынская з Дубін. Віншуем!**

Sak, Obsadka, Mak, Kwas, Grosz, Kiosk, Grom, Szpinak, Szpak, Baran, Bierz, Przedszkole, Szczyt, Łatka, Bas, Ręka, Liczba, Pan, Rosa, Tam, Tur, La, Zespół, Ataman



Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Мікалай Валкавыцкі — колеры роднага Белавежжа

**У Падляшскім музеі (ратушы) у Беластоку 23 сакавіка адбылося адкрыццё мемарыяльнай выставы жывапісу Мікалая Валкавыцкага, вядомага мастака родам з Белавежы (1925-2011). Паказаны былі яго алейныя працы са збораў музеяў і прыватных калекцый (некаторыя з іх узнагароджаны ў свеце) ды больш за 50 пастэльных малюнкаў. Вернісаж выстаўкі прыцягнуў шмат аматараў мастацтва, сярод іх яго калег мастакоў розных пакаленняў, сяброў і сваякоў. Мікалай Валкавыцкі вучыўся ў майстэрнях скульптуры і жывапісу. Пасля Акадэміі мастацтва ў Варшаве вярнуўся на Беласточчыну.**

Як сказала брацiха жывапісца, Вера Валкавыцкая, Мікалай быў усебакова таленавітым мастаком, які заўсёды вяртаўся ў сваёй творчасці на радзіму.

— Мы вельмі часта сустракаліся. Ён вельмі здольны кампазітар, скульптар, жывапісец. У „Ніве" была нават змешчана яго песня з нотамі, якую ён у Варшаве, як вучыўся, склаў і спяваў. Быў нейкі час мастацкім рэдактарам, графікам у „Ніве". Мікалай мог застацца працаваць у Варшаве (быў ад'юнктам у Мастацкай акадэміі), але ўсіх Валкавыцкіх цягнула сюды, на гэтую Беласточчыну.

— Брытанская каралева віншавала яго з удалымі карцінамі, — прызнаецца брат Мікалая, Георгій, старэйшы ад яго на два гады. — І гэтым ён ганарыўся. Для сваёй творчасці чэрпаў з роднага — шмат з Белавежжа, яго прыроды, вуліц, будынкаў, цэркваў, ставоў, роднага панадворка. Партрэтаваў тату, маму, сястру.

Мікалай Валкавыцкі дэбютаваў быў на Выставе маладой пластыкі ў варшаўскім „Арсенале" — вызначальнікам новай эпохі ў польскім сучасным мастацтве.

— Парванне з сацрэалізмам і схематамі, кантакт з сусветным мастацтвам і традыцыяй польскага авангарда міжваеннага часу гэта асоўныя рысы мастацкай рэвалюцыі таго часу, — тлумачыць мастацтвазнаўца Іаанна Тамальская. — Пераможна вярнуліся мастацкія каштоўнасці як падстава ацэнкі мастацкага твора. Як моцна паўплывала тая экспазіцыя на маладога і таленавітага мастака, якога мастацкая ўражлівасць фармавалася ў Белавежскай пушчы? Ці ўрок гістарычнай выставы аказаў уплыў на фармаванне ягонай творчай індывідуальнасці і на пазнейшыя ягоныя выбары? Ці ўжо тады пакінуў думку ад разьбе дзеля жывапісу? Ягонымі настаўнікамі былі прафесары Мар'ян Внук і Францішак Старынкевіч у класе скульптуры, а ў жывапісе — прафесар Яўген Эйбіш, вучань Яцка Мальчэўскага і стыпендыят французскага ўрада, адзін з найбольш выдатных жывапісцаў польскага мастацкага авангарда.

Дэбютанцкі ўдзел у Выставе маладой пластыкі стаў для шмат каго з калег Валкавыцкага першай прыступкай да кар'еры. Мікалай Валкавыцкі не астаўся аднак у сталіцы — на тагачаснай беластоцкай правінцыі было больш працы „з нуля". Тэмперамент арганізатара схіліў мастака да піянерскіх дзеянняў у Беластоку.

Каторы час Мікалай Валкавыцкі вучыў у Мастацкім ліцэі ў Супраслі, ды маладога мастака неўзабаве захапілі арганізатарскія працы — стаў шэфам беластоцкага „Арсенала".

Доўгія дзесяцігоддзі XX ст. Беласточчына належала да творча пасіўных тэрыторый. Пасля II вайны, калі ў Беластоку сабралася досыць моцнае мастацкае асяроддзе, склалася група, якая захацела адмяніць тую нядобрую славу адсталай у мастацкім плане мясцовасці. Спачатку прэзентавалі свае творы ў Рэгіянальным музеі. У 1965 г. было адкрыта Бюро мастацкіх выстаў (БВА), шэфам якога стаў Мікалай Валкавыцкі. У той самы час сарганізаваны быў I Агульнапольскі трохдзённы белавежскі пленэр, арганізатарам якога была Акруговая ўправа Саюза польскіх мастакоў. Працавалі на ім не толькі мастакі, але і разьбяры (яны з часам перанеслі свае імпрэзы ў Гайнаўку). Ева Гажтэцкая падкрэслівала эксперыментальны характар гэтага пленэру, мэтай якога было „ўключэнне асяроддзя ў плынь доследаў і творчых пошукаў у галіне сучаснага мастацтва". Месца пленэру было выбрана невыпадкова. Выявіўся там Мікалай Валкавыцкі — *spiritus movens* пленэру. Трыццаёх трох мастакоў з усёй краіны з'ехалася ў 1965 г. на тры тыдні ў Белавежу, дзе інспірацыяй мела быць *сіла ўнушання натуры ва ўздзеянні на мастацкую творчасць*. Пленэрныя імпрэзы ў Белавежы адбываліся больш за трыццаць гадоў. Ідэя белавежскага пленэру, аднаго з першых у Польшчы, апярэдзіла моду на пленэры. З часам белавежскія сустрэчы сталі міжнароднымі пленэрамі, а пленэрныя выставы мастацтва здабылі ранг найважнейшай мастацкай імпрэзы ў рэгіёне.

— Пасля першых пленэраў у Асеках гэта Мікалай выдумаў і вытаптаў у Беластоку і ў Варшаве Белавежскі пленэр, — кажа Веслаў Юркоўскі.

У той час Мікалая Валкавыцкага займала гуртаванне беластоцкіх мастакоў. Прымаў удзел у шчэцінскіх фестывалях польскага мастацтва, біенале графікі ў Кракаве, агульнапольскіх выставах сучаснага мастацтва ў Сопаце, Вроцлаве, Варшаве, Эльблангу. Беластачане рушылі ў свет — у Монтэ-Карла, Маскву, Бухарэст, Парыж, Брусель. Беластачане здабылі залаты медаль. Філасофска-сімвалічную плынь карцін Валкавыцкага з 1970-х гадоў неўзабаве замянілі карціны з размытымі, пранікаючыміся геаметрычнымі формамі, маляваныя яркімі, разбеленымі фарбамі, стыхійныя і вельмі каляровыя. Праз гады Мікалая Валкавыцкага захапіў пейзаж. Быў знакамітым пейзажыстам — з паэтычнай лёгкасцю, трапным адчуваннем колеру, сюррэалістычным перабольшаннем, светлай каларыстыкай. За ўсё творчае жыццё маляваў таксама пастэллю. На пераломе 1970-х і 1980-х гадоў у карцінах Мікалая Валкавыцкага паявіліся пагрозлівыя ноты, далёкія ад ідылічнай гармоніі: чарната, вуглаватасць і несустраканыя раней, адназначна сімвалічныя сілуэты ваўкоў, сімвалічны твар у цёмных акулярах. Творчасць Мікалая Валкавыцкага — аднаго з найвыдатных і найцікавейшых мастакоў у рэгіёне — перайшла знамянальную метамарфозу: сінтэтычна маляваныя віды горада з плоска паказанымі дамамі з чырвонымі дахамі і простымі вуліцамі ўступілі месца крыху змрочным, сімвалічным палотнам; тут простая рэгістрацыя свету ўступае месца мастацкім і рэлігійна-філасофскім разважанням. Наступны этап — захапленне колерам і формай — у той перыяд узнікаюць прыгожыя гарманічныя палотны з простых геаметрычных каляровых фігур. Другая палова сямідзесятых гадоў — захапленне пейзажам як інспірацыяй для паэтычна-жывапісных разважанняў аб каштоўнасці колеру. З канцом 1980-х гадоў кончыўся ў яго гэты спосаб бачання пейзажу, інспіраваны красой Белавежскай пушчы. Чорны, брутальна масіўны контур, паяўляючыся амаль на кожнай карціне таямнічы твар у цёмных акулярах паказвае на вельмі моцны ўплыў палітыкі на творчасць мастака.



Георгій Валкавыцкі, старэйшы брат мастака са сваёй дачкой Галінай



— Калі б Мікалай Валкавыцкі застаўся ў сталіцы або жыў на захад ад Віслы, — мяркуе мастацтвазнаўца Ежы Германовіч, — быў бы прылічваны да самых выдатных мастакоў краіны.

Эксперыментаваў і шукаў новай мовы і новых тэм. У 1968 г. напісаў карціну „Кароль", якую лічыў адной з найважнейшых у сваёй творчасці. Аскетычная ў колеры, з моцнай філасофска-сімвалічнай нагрузкай. Цэнтр карціны займае распаленая да белага форма, перакрэсленая роўнабаковым крыжам. Рассветленую паверхню вакол яе займаюць цёмныя драматычныя формы цвёрдай, геаметрычнай будовы. Гэтую карціну, як адзін з шасці прадстаўнікоў мастакоў Беластока, Валкавыцкі прадставіў у 1969 г. на X Парыжскім салоне — на гэтай памятнай выставе беластачане здабылі залаты медаль.

У другой палове XX ст. Мікалай Валкавыцкі належаў да найбольш актыўных творцаў у горадзе. Ягоная творчасць была неаднаразова ацэнена: у 1965 г. атрымаў ён узнагароду на Фестывалі сучаснага жывапісу ў Шчэціне, у 1970 г. — у конкурсе на станковую карціну ў Лодзі. У 1972 г. быў узнагароджаны Залатым крыжам заслугі, а ў 1990 г. — Кавалерскім крыжам Ордэна адраджэння Польшчы.

Працы Міколы Валкавыцкага ў беластоцкай Ратушы можна паглядзець да канца мая.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# На Бобры (ч. 2)

(працяг з папярэдняга нумара)

**Зараз за Канюшкамі новы мост на рацэ Бобры, за якім хутары вёскі Новы Рагожын; мост быў урачыста здадзены ў карыстанне ў пачатку снежня мінулага года. Партал горада і гміны Ліпск: „Nowy obiekt połączył dwie gminy: Lipsk i Nowy Dwór, a jednocześnie 2 powiaty: augustowski i sokólski, poprzez połączenie przez rzekę Biebrzę naszej drogi gminnej z drogą gminną Gminy Nowy Dwór. To połączenie jest niezbędne dla społeczności tych terenów, przede wszystkim jako jedyny, dogodny dojazd do pól, szkół, sklepów, kościoła, cmentarza oraz w celach wizyt rodzinnych i sąsiedzkich, a w perspektywie do planowanego przejścia granicznego w Lipszczanach”. Напісана гэта з размахам, бо ў Ліпшчаны, так ад Канюшкаў як і з Рагожына, вядуць акурат іншыя дарогі, але для зносін чыста мясцовага характару ён вельмі сэнсоўны.**


Ліпск

З моста гэтага падаўся я палявой дарогай у напрамку Рагожынка, невялікай вёскі на паўночным беразе Бобры. З паўночнага боку, інакш чым ад Канюшкаў, ахоўная дамба непатрэбная, бо там зараз за поймай рэчкі выразны край Рагожынскай марэнавай выспы. Палі там абрабляюцца даволі рэгулярна, хаця ўжо ёсць шмат аблясенняў. Дарэчы, гаспадаранне там мае доўгую традыцыю. Вось грамата караля Аляксандра Ягелончыка ад 5 сакавіка 1505 года: „Билъ намъ чоломъ дворенинъ нашъ Макаръ о томъ, што дали есмо ему землицы дубровы въ Городенскомъ повете на имя Рогожинъ за рекою за Медведицею, подле реки Бобры до тыхъ местъ, покуль болото зашло, по Липско островецъ, Малый Рогожинецъ, подле речки Бобры. (...) И тежъ дозволили есмо ему на той реце на Бобре, подъ Малымъ Рогожинцомъ, ставъ заставити и млынъ нарядити и езы бити покуль его земля. И на все на то вказывалъ передъ нами листы наши и билъ намъ чоломъ, абыхмо тые земли, данину нашу и куплю его, потвердили нашимъ листомъ. Ино мы, з ласки нашое, за его къ намъ верную службу, тыи земли Больший Рогожинъ и Малый Рогожинецъ и тые землицы бортные и млынъ и езы потверждаем симъ нашимъ листомъ вечно и непорушно ему самому его жоне и ихъ детемъ и на потомъ будучымъ ихъ счадкомъ со всимъ съ тымъ, што къ тымъ землямъ слушаетъ, зъ сеножатьми, зъ болотомъ. А на твердость того и печать нашу казали есмо приложитъ къ сему нашому листу. Писанъ у Берестьи”. Пры нагодзе варта тут зазначыць, што ад упадзення Мядзведзіцы ў Бобру пачынаецца Бобранскі нацпарк.

Па акраіне асноўнай марэны выйшаў я на асфальтоўку між Старым Рагожынам і Рагожынкам. У Рагожынку зараз пачатак байдарачнага маршрута па Бобры. Калі я з’явіўся ў гэтай вёсцы, зараз з аднаго панадворка паказаўся гаспадар з запытаннем, чаго я там шукаю. Бо я крышку разгубіўся, таму што з вёскі не было відаць шпіляў ліпскага касцёла, якія, напрыклад ад Дубровы, відаць вельмі выразна здалёк. Чалавек паказаў мне дарогу і паінфармаваў, што ў Ліпск усяго тры кіламетры. І сапраўды, недзе паўкіламетра за Рагожынкам з-за лесу паказаўся знаёмы сілуэт ліпскага касцёла. Дарога з Рагожынка ў Ліпск пралягае цераз дрыгвяністую раўніну, якая адмяжоўвае Ліпск ад згаданай раней Рагожынскай марэнавай выспы.

З боку Рагожынка, так як і з іншых бакоў, выдатна відаць касцёл. Але не толькі; таксама выдатна адтуль красуецца будынак тамашняй школы, які стаіць на акраіне адносна высокай асноўнай марэны. Школа была пабудавана ў той геркаўскі час, калі вядучую пасаду ў сілавых структурах Польшчы займаў ураджэнец Ліпска Міраслаў Мілеўскі; 1 верасня 1976 года адбылася ў ёй нават агульнапольская інаўгурацыя навучальнага года. Але будучы пры ліпскай школе варта заглянуць крыху ў мінулае, дапусцім — у адлеглае на сто гадоў. У той час над ліпскім краявідам дамінавала царква, пабудаваная ў 1880 годзе, якая стаяла амаль у тым самым месцы, што зараз школа. Цяперашні касцёл тады толькі што будаваўся, але рэлігійныя працэсы пайшлі ў тым напрамку, што царкоўныя вернікі перапраўіліся ў каталіцтва і царква стала пусцець; ужо ў 1908 годзе не стала ў ёй святара. Апусцела яна зусім пасля Першай сусветнай вайны і яе ў канцы


Сенажаць каля Шушалева

1930-х гадоў знеслі. Аднак неўзабаве пасля вайны зараз побач яе, на месцы, дзе стаяла ранейшая, драўляная царква з уніяцкага яшчэ часу, ліпшчане насыпалі курган; вытрымка са школьнага партала: „W latach 1919-1922, dając wyraz głębokiego patriotyzmu i entuzjazmu odzyskania niepodległości, mieszkańcy Lipska usypali w czynie społecznym, sztuczne wzniesienie nazywając go Kopcem Wolności. Na jego wierzchołku umieszczono kamień z tablicą i napisem: „3.V.1922 — Dzieci Wolnej Polski”. Prace nad podwyższeniem Kopca trwały do 1925 roku. W 1976 roku w związku z budową szkoły i niwelacją terenu, wysokość Kopca wzrosła o ponad 1,5 m. Od tego czasu ma on nowy kształt. Jest to miejsce cieszące się dużym szacunkiem mieszkańców. Kopiec jest jednym tego typu obiektem na terenach północno-wschodniej Polski”. Пра ўніяцкую царкву ні слова.


Панарама Дубровы

Захацеў я заглянуць у ліпскі рэгіянальны музей, на якім шмат розных шыльдаў, аднак ён аказаўся пад замком. Падаўся я тады ў тамашнюю бібліятэку, запытаў пра даступныя кнігі аб мясцовым мінулым. Бібліятэкарка крыху збянтэжылася і стала апраўдвацца, што кнігі пазычаныя тымі, што пішуць нейкія працы. Але ўсё ж такі знайшла яна мне некалькі кніжачак; аб шырэйшым тамашнім мінулым у іх ліку былі толькі дзве кніжачкі — пра гісторыю навакольных каталіцкіх парафій, да таго ж напісаныя вялебнымі аўтарамі. У такіх абставінах грэшна мне — мо занадта паспешна — падумалася, што для пісання пра мінулае Ліпска патрэбны *imprimatur*... У адной з кніжак, якія мне паказала бібліятэкарка, былі запісаныя ад мясцовага насельніцтва песні — у іх ліку некалькі на *простай* мове.

Апошнюю заўвагу прыводжу невыпадкова. Ужо ў Беластоку ўзяў я з бібліятэкі кнігу п.з. „Lipsk nad Biebrzą”, якую выдаў Ośrodek Badań Naukowych у Беластоку ў 1980 годзе, а ў ёй знайшоў такую фразу (стар. 9): „Nie wiadomo dokładnie, jak przebiegała granica stref osadniczych, ale przypuszcza się, że osadnictwo ruskie sięgało prawego brzegu Niemna, a lewego brzegu wcale nie przekroczyło; w każdym razie nie przesunęło się głębiej na zachód”. З беластоцкай „навуковай” строгасцю *przypuszcza się* што толькі душа захоча...

Я можа замнога ўвагі прысвячаю нашай мясцовай камунікацыі, ну але ж я ўсё ў дарозе. Вось і ў Ліпску падаўся я на аўтобусны прыпынак побач гарадскога рынку, з якога яшчэ гадам раней адпраўляўся ў Беласток ці Аўгустаў. Аднак цяпер на тым месцы не было яго пазнакі. Падаўся я крыху далей, на прыпынак, што на вуліцы 400-годдзя, аднак на тамашнім раскладзе не было аўтобусаў ні ў Дуброву, ні ў Аўгустаў. З Ліпска ў Дуброву дзесяць кіламетраў і я крыху воляй, крыху няволяй рашыўся на такую прагулку.

Мінуў я Ялоўскую марэнную выспу і выйшаў на дуброўскую „сушу”, а там павярнуў у напрамку Шушалева, куды запрашала вялікае табло побач ліпскадуброўскай шашы. Звабіла мяне інфармацыя, што між Яловам і Шушалевам ёсць прыродазнаўчы маршрут па Бобранскім нацпарку, якой каля Ялова я не звочыў. Перад адной з шушалеўскіх хат красуецца драўляная фігурка папы Яна Паўла II. Калі я шчоўкнуў здымак, з панадворка паказаўся гаспадар, які паведаміў мне, што фігурку выразаў ягоны знаёмы з Каменнай...

Зараз за апошняй хатай шушалеўскай вуліцоўкі стаіць ландшафтная вышка, якая задумана як канцавы пункт згаданага раней прыродазнаўчага маршруту; другая такая ж вышка стаіць з ялоўскага боку. І пры гэтай вышцы красуецца інфармацыя пра той маршрут, аднак не заўважыў я яго трасіроўкі; магчыма, што праект яшчэ не завершаны. Усё ж такі з гэтай вышкі відаць даволі абшырную панараму бобранскай прадаліны.

Падаўся я далей жвіроўкай, якая перамянілася ў грунтоўку, побач шушалеўскіх хутароў. Пад паветкай адной з пакінутых, неабжытых хат пабачыў я незвычайны экспанат — казлы для трачоўкі дыляў. Здаецца, што дылі такім чынам — уручную — трачавалі толькі некалькі гадоў пасля вайны, калі людзі адбудоўваліся. А тут датрывалі яны да XXI стагоддзя...

У агульнасці краявід між Ліпскам і Дубровай нагадвае антураж „Канапелькі” Рэдлінскага. З аднаго боку высіцца ліпскі касцёл, а з другога дуброўская царква. Хаця апошняя здаецца быць не надта высокай, але стаіць яна ў месцы, якое добра праглядваецца з боку Ліпска. Затое з таго боку не відаць дуброўскага касцёла, хаця ён даволі высокі. Справа ў тым, што ён стаіць усярэдзіне катлавіны, па баках якой размясціўся горад і ад Ліпска закрыты лясістым бугаркам перад самай Дубровай...

У Дуброву зайшоў я дзесяць хвілін перад ад’ездам перадапошняга аўтобуса ў Беласток. У Чорнай-Беластоцкай сеў у салон працаўнік беластоцкага пэкаэсу, які расказаў вадзіцелю, што апошні курс па гэтым маршруце ў той дзень не адбудзецца; спазніўся б я тыя дзесяць хвілін і... сюрпрыз.

Кірыла КАЛБАСНІКАЎ

# Дзень Волі ў Вільні

**Месяц сакавік выдаўся складаным, але прадуктыўным. Цягам цэлага тыдня ў Вільні праходзілі розныя мерапрыемствы, звязаныя з беларусамі і беларускасцю.**




19 сакавіка адбылося ўрачыстае адкрыццё „Беларускага тыдня", які пачаўся з выставы беларускай мастачкі Таццяны Дзянісавай з сімвалічнай назвай „Сны і рэальнасць". Дзеянне адбывалася ў Віленскім гарадскім самакіраванні. Узровень правядзення быў сапраўды еўрапейскім: на адкрыцці прысутнічалі мэр Вільні Артурас Зуокас, старшыня Камітэта па замежных справах Літвы Эмануэліс Зінгерыс, амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас, паслы польскага і чэшскага пасольстваў, праф. Станіслаў Шушкевіч, а таксама прадстаўнікі беларускіх арганізацый.

21 сакавіка ў Літоўскім сойме была праведзена сустрэча беларускіх і літоўскіх дзеячаў і прадстаўнікоў розных арганізацый. На ёй прысутнічалі: Эмануэліс Зінгерыс, Саўлюс Печалюнас, Стасіс Каўшыніс, Аляксандр Мілінкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Алег Мяцеліца, Хведар Нюнька, Валянцін Голубеў, прадстаўніца польскага пасольства і іншыя. Былі абмеркаваны пытанні, звязаныя з праблемамі ў Беларусі, а таксама шляхі далейшых узаемаадносін паміж Беларуссю і Еўрасаюзам.

У выніку была падпісана рэзалюцыя, якая пазней будзе прадстаўлена ў Радзе Еўропы. Асноўнымі пунктамі дэкларацыі апынуліся наступныя: узмацненне кропкавых санкцый супраць Аляксандра Лукашэнкі і ягонага бізнес-атачэння; запыт на адмену правядзення чэмпіяната свету па хакеі ў Беларусі; патрабаванне ад рэжыму ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. Асабліва агаворвалася магчымасць зніжэння коштаў за візы для беларусаў у краінах Еўропы.

22 сакавіка беларусы ўшаноўвалі памяць Кастуся Каліноўскага. А 5-й гадзіне на Лукішскім пляцы сабралася каля дваццаці чалавек. Яны прынеслі кветкі і знічкі, якія пасля былі пакладзены на помнік нашаму герою. У паветры луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Падчас выступу Хведар Нюнька падкрэсліў, што была запланавана рэканструкцыя Лукішскага пляца, на якую былі заяўлены сем праектаў. Але ніводзін з іх не прадугледжваў захавання крыжа. Сябры ТБК звярнуліся да прэм'ер-міністра Андруса Кубілюса з просьбаю захаваць яго. Таму рэканструкцыю адклалі да таго часу, пакуль не з'явяцца грошы на захаванне помніка. Падчас акцыі выступалі Кірыла Атаманчык — прадстаўнік студэнцкага аб'яднання „Stud-Aliance", Валянцін Голубеў — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII і XIII скліканняў, адзін з аўтараў першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, доктар гістарычных навук і Алесь Пушкін — вядомы беларускі мастак. Пасля некаторыя рушылі на гару Гедыміна, на якой, як мяркуецца, і быў пахаваны Кастусь Каліноўскі.

23 сакавіка ў Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве адбылася выстава „Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка". На ёй былі прадстаўлены арыгіналы невядомых раней дакументаў і артыкулаў, якія засведчылі існаванне і дзейнасць прадстаўнікоў новай дзяржавы.

У той жа дзень аднайменная выстава адбылася ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, толькі прадстаўлены на ёй былі копіі дакументаў. Мерапрыемства адзначылася тым, што на ім прысутнічаў пераапрануты ў Антона Луцкевіча Павал Клюеў, які пасля сваёй прамовы падпісваў пашпарты Беларускай Народнай Рэспублікі ўсім жадаючым.

24 сакавіка. У гэты дзень у віленскай ратушы выступіў хор „Унія", які выконваў не толькі беларускія і класічныя творы, але і кампазіцыі сусветна вядомых рок-гуртоў, напрыклад, „Бітлз". Перад канцэртам слова трымаў Хведар Нюнька, які прадставіў зварот старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы. У ратушы сабралася поўная зала. Акрамя віншавання ўсіх беларусаў са святам Дня Волі, зварот змяшчаў словы, прысвечаныя герою Беларусі і пакутніку лукашысцкага рэжыму Сяргею Каваленку.

Пасля канцэрта ўсе жадаючыя мелі магчымасць пазнаёміцца і паразмаўляць з чальцамі хору на святочным фуршэце.

25 сакавіка шмат людзей сабралася на могілках Росы, дзе яны ўшаноўвалі памяць выдатных людзей Беларусі — Антона і Івана Луцкевічаў. Паехалі на Еўфрасіннеўскія праваслаўныя могілкі, дзе таксама ўшаноўвалі памяць Тодара Вернікоўскага — былога міністра БНР, магіла якога была выпадкова знойдзена Людвікай Кардзіс.

Пазней усе жадаючыя прынялі ўдзел у аўтапрабегу па Вільні з нацыянальнымі сцягамі Літвы і Беларусі. У ім прыняло ўдзел прыблізна 15 аўтамабіляў. Пасля праездкі па горадзе, калона рушыла да літоўска-беларускай мяжы.

Увечары адбылася святочная вячэра, на якой сабраліся прадстаўнікі розных арганізацый, неабыякавыя да лёсу Беларусі сталыя і маладыя людзі. Усе выказалі задавальненне праведзеным тыднем, знаходзілі месца і для аб'ектыўнай крытыкі. Але самае галоўнае, што ў гэтым годзе арганізацыяй і правядзеннем свята і прысвечанага да яго „Беларускага тыдня" займаліся не толькі сябры Таварыства беларускай культуры — вырашальны ўклад зрабілі сябры палітычнага Прадстаўніцтва Беларусі ў Літве.




# http://kultura.gov.by.

Пэўна, адной з нешматлікіх сфер жыцця беларусаў, дзе беларуская мова яшчэ не зусім страціла свае пазіцыі, з'яўляецца культура. Па вялікім рахунку, гэта, бадай, адзінае, на што, калі і ўплывае, то з вялікай цяжкасцю, суцэльная русіфікацыя жыцця беларусаў. Лакаматывам гэтай русіфікацыі можна без перабольшання назваць лукашэнкаўскую ўладу, якая даўно прызнала, што на беларускай мове нельга сказаць нічога разумнага. Праўда, у кожным правіле ёсць выключэнні. Адно з іх — сённяшняе Міністэрства культуры (Мінкульт) Рэспублікі Беларусь, якое ўзначальвае колішні генеральны консул Беларусі ў Беластоку, а потым пасол Беларусі ў Польшчы Павел Латушка.

Адной з найяскравейшых адметнасцей гэтага чыноўніка з'яўляецца яго беларускамоўнасць, якая, як не дзіўна, не перашкаджае яму казаць разумныя рэчы. Больш таго, яна, па ўсім відаць, нават спрыяе справам на карысць беларушчыны, што робіць данае міністэрства. Адной з такіх спраў з'яўляецца неблагі сайт Міністэрства культуры, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://kultura.gov.by.**

Даны сайт сапраўды зроблены на высокім мастацкім узроўні. Пад выйсцямі да рубрык, якія месцяцца ўверсе выяўлення, на галоўнай старонцы змешчаны тызер — месца, дзе змяняюцца па чарзе фотаздымкі. На тых карцінках можна ўбачыць беларускія помнікі архітэктуры, мастакоў, якія малююць, артыстаў і акцёраў, што танчаць ці граюць нейкі спектакль, гандляроў, якія прапаноўваюць вырабы народнага рукадзелля.

Галоўная старонка падзелена на тры традыцыйныя часткі. У першай, левай, знаходзяцца выйсці да старонак, дзе распавядаецца аб структурных падраздзяленнях міністэрства. Пасярэдзіне месцяцца навіны культуры, а з правага боку — выйсці да сайтаў структур беларускага Мінкульта, а таксама да сайта Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, якія, натуральна, цалкам рускамоўныя і не маюць нават беларускіх версій.

Вартымі асаблівай увагі падаюцца рубрыкі „Мерапрыемствы і конкурсы" і „Фонды", выйсці да якіх знаходзяцца ўверсе выяўлення. Першая дае магчымасць даведацца аб тым, што будзе зладжана пад эгідай міністэрства на працягу года, у другой распавядаецца аб прэзідэнцкіх фондах, што маюць падтрымліваць таленавітую моладзь і ўвогуле культуру і мастацтва. Таксама цікавай можна назваць і старонку „Беларуская культура сёння", дзе павінны месціцца статыстычныя даныя. На жаль, старонка дагэтуль не распрацаваная і не змяшчае аніякіх звестак.

„Вытворцы тавараў і паслуг" — гэта рубрыка, якая ўтрымлівае назвы разнастайных устаноў, якія падначаленыя Мінкульту, а таксама выйсці на іх сайты.

Варта адзначыць, што сайт Міністэрства культуры пры ўсіх плюсах мае выключаючы здзіўленне мінусы. Так, не зусім зразумелай з'яўляецца рубрыка „Урокі бяспекі". У ёй распавядаецца аб тым, што варта рабіць пры пажарах альбо ўнюхаўшы пах газу, апынуўшыся ў поўнай цемры альбо заблукаўшы ў лесе. З якіх меркаванняў даны тэкст з'явіўся на культурніцкім сайце — незразумела.

Ну, а каб больш пазнаёміцца з тымі, хто афіцыйна кіруе сённяшняй беларускай культурай, трэба зазірнуць на старонкі „Міністр" і „Намеснікі", дзе месцяцца іх працоўныя біяграфіі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы БЕЛАРУСІ

## Заслаўскі след

Неяк, перабіраючы старыя кніжкі сваёй бібліятэкі, агледзеў сярод іх маленькую, фактычна самвыдатаўскую брашурку „Тэзісы дакладаў на І-ых Заслаўскіх чытаннях". Прыгадалася, што прыдбаў яе ў Заслаўі ў канцы 1990-х гадоў на чарговай канферэнцыі, якую ладзіла Беларускае навукова-гуманітарнае таварыства. Зборнічак вельмі сціпла выдрукаваны на ратапрынце, з пранумараванымі ад рукі старонкамі і надзвычай стракатай тэматыкай, сярод якой нават такія экзатычныя рэфераты як „Беларуска-індзейскія сувязі". Не ведаю, ці існуе зараз БНГТ, але сярод яго заснавальнікаў было нямала выдатных асоб і навукоўцаў, што закладалі пачаткі суверэннай гуманітарнай навукі. Лепшага месца чым Заслаўе для тых, у нейкай ступені наіўных, канферэнцый і падабраць было нельга. Менавіта ў гэтай мясціне, што сёння амаль уваходзіць у рысу беларускай сталіцы, застаўся яскравы след айчыннай старажытнай гісторыі.

Яшчэ ў X стагоддзі на правым беразе ракі Свіслач існавала паселішча крывічоў. Паводле летапіснага падання кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч заснаваў тут горад для сваёй жонкі Рагнеды, гвалтоўна вывезенай з Полацка, і малалетняга сына Ізяслава, ад імені якога паселішча і атрымала назву. Гісторыя „крывавага вяселля" досыць падрабязна апісана нашымі навукоўцамі, а таксама літаратарамі ў мастацкіх творах. Менавіта ў Заслаўі ў 1000 годзе і знайшла спачын Рагнеда-Гарыслава, дачка Рагвалода, высланая з сынам з Кіева за замах на мужа — забойцу сваёй полацкай сям'і.

Па ўсёй імавернасці ў Заслаўі было ўдзельнае княства, якое пазней увайшло ў Вялікае Княства Літоўскае. У XVI стагоддзі былы дзядзінец быў пераўтвораны ў Заслаўскі замак. У розны час места належала родам Глябовічаў, Сапегаў, Пшаздзецкіх. Шматлікія раскопкі ў горадзе з надзвычай багатымі знаходкамі дазволілі археолагам увесці ў навуку адмысловыя тэрміны „заслаўская кафля" і „заслаўская кераміка". Асноўнай архітэктурнай візітоўкай сённяшняга Заслаўя з'яўляецца славуты кальвінскі збор — унікальны помнік архітэктуры, сёння праваслаўная Спаса-Праабражэнская царква. Храм, які стаіць на старажытным гарадзішчы „Вал", зазнаў змену розных канфесійных гаспадароў. На змену пратэстантам прыйшоў дамініканскі кляштар, які меў салідную па тым часе бібліятэку. Потым быў звычайны парафіяльны касцёл, потым праваслаўны храм, пазней ў гады атэізму запусценне. А ў канцы савецкага перыяду ў ім месціўся музей народных промыслаў і рамёстваў. У цэнтры горада стаіць таксама прыгожы фарны касцёл, пабудаваны ў стылі барока.

Трыццаць гадоў таму, у найбольш вольны для нашай краіны час, у Заслаўі ствараўся дзяржаўны гісторыка-культурны аднайменны запаведнік. Паўставаў ён натуральна, таму што мала дзе можна знайсці столькі археалагічных помнікаў, яскравых слядоў сівой даўніны. Зараз комплекс займае агульную плошчу 113 гектараў старажытнай часткі горада, улучае цэлы шэраг археалагічных і музейных аб'ектаў. Найбольш цікавыя з іх млын, кузня, экспазіцыя габеленаў і дываноў „Мара пра Заслаўе", дзіцячы музей міфалогіі і лесу. Асобна варта згадаць калекцыю музычных інструментаў, якая налічвае каля 200 адзінак. У той вышэйзгаданы прыезд у горад пашчасціла ўпершыню пачуць выдатны фальклорны гурт „Ліцьвіны" з каларытным кіраўніком Уладзімірам Бярберавым.

Знакамітае Заслаўе і сваім вадасховішчам, якое называюць яшчэ Мінскім морам альбо Ганалесам. Вакол гэтага штучнага вадаёма шмат аздараўленчых дзіцячых асяродкаў. Словам, слаўная гістарычная мясцовасць, дзе варта пабываць.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Сотні гадоў перад керамічнай фабрыкай

Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

Зараз Лякоўва славіцца вырабам цэглы. А варта ведаць, што ў XVI стагоддзі быў тут памешчыцкі двор. Меў ён абарончы характар. Знаходзіўся ён на ўзгорку, на правым баку ракі Нараўкі. Навокал акружалі яго багны. Двор быў абгароджаны высокім частаколам. Цераз балоты вяла адна-адзіная дарожка і быў мост.

Князь Ян Масальскі ў XVII стагоддзі фальваркі Ляўкова ды Луку даў у арэнду Казіміру Хлусевічу. Дворскі ансамбль састаўлялі тры часткі — жылы будынак з вокнамі на раку ды дзве гаспадарчыя часткі.


Месца дзе быў панскі двор у Новым Ляўкове

У галоўным абжытым будынку былі два вялікія пакоі, бакавы пакой, у якім была спальня, ды каморка-кладоўка, кухня. Побач галоўнага будынка знаходзіліся будынкі для ксяндза і дворскай службы. У яшчэ іншых будынках перахоўвалі харчовывя прадукты, апал.

Гаспадарчая частка была за драўляным частаколам-плотам. Там былі дзве стайні, адрына, пякарня, кароўнік, два свірны і вазоўня. Бліжэй ракі знаходзілася стайня для валоў, піварня і саладоўня. Рад ракою была лазня з памостам. Тут трымалі злоўленую рыбу. На рацэ, бліжэй да месца, дзе Баброўка ўліваецца ў Нараўку, пабудавалі вадзяны млын з адным вялікім колам і фолюш. У вёсцы пражывала 35 сялянскіх сем'яў.

29 сакавіка 1668 года на ляўкоўскі двор зрабіў напад судовы выканаўца Тэодар Дэнгоф. Уварвалася пару соцень узброеных людзей на конях. Яны забралі 10 французскіх пісталетаў, шмат сярэбраных прадметаў, сукно. Выкралі трох каней-аргамакаў, дваццаць валоў, дзевяноста ялавіц, дваццаць цялят, дванаццаць вепрукоў і сто авечак.

Колішнія панскія сажалкі у Новым Ляўкове

Варта дадаць, што за набег Станіслаў Масальскі падаў на Дэнгофа ў суд і справу выйграў. Аднак кампенсацыі не атрымаў. У студзені 1669 года Дэнгоф памёр і штрафу не заплаціў.

У першай палове XVIII стагоддзя Ян Казімір Масальскі пачаў рабіць шматлікія інвестыцыі ў Ляўкове. Быў выкапаны паралельна да рэчышча ракі Нараўкі канал, насыпалі грэблю, а на ёй пасадзілі дэкаратыўныя дрэвы і кустарнікі. Алея вяла да новапабудаванай царквы. Млын мог амаль бесперапынна працаваць, бо вада з ракі Нараўкі плыла каналам у сажалку, на якой стаяў млын.

Чарговымі арандатарамі фальварка ў Ляўкове былі Ян Вянгерскі і да 1890 года капітан Юльян Каменскі.

Пасля меліярацыі Баброўкі высахла сажалка, на якой калісьці стаяў вадзяны млын. На месцы, дзе быў памешчыцкі двор, захаваўся стаў. Недзе да 2002 года на яго берагах раслі старыя вольхі і шмат тоўстых вербаў. Каля панскага двара былі лугі і сенажаці. Да 1990 года належалі яны Мікалаю Леўчуку і Кірылу Кучко з Новага Ляўкова. Памерлі яны ў канцы мінулага стагоддзя. Сын Кірылы, Аляксандр, памёр у лютым гэтага года на 92 годзе жыцця.

# Беларуская гістарычная навука

Цэнтр навуковых даследаванняў імя Войцеха Кентшынскага і Гуманітарны аддзел Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта ў Ольштыне наладзілі сустрэчу з прафесар Вольгай Гарбачовай (родам са Слоніма) з Беларускага дзяржуніверсітэта ў Мінску. Зачытала яна даклад на тэму беларускай гістарычнай навукі, расказваючы пра меандры беларускай гістарыяграфіі з XIX да XXI стагоддзяў. Цікавую лекцыю слухала каля трох дзесяткаў асоб.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**



# Адгаданка

1. царкоўны сігнальны інструмент, 2. напр. Yunnan, Darjeeling, Ceylon, Assam, Pu-erh, 3. індыйская сістэма фізічна-псіхічных практыкаванняў, 4. празрыстая цукерка з сумесі цукру з фруктовым сокам, 5. вайсковае паліто, 6. у анекдатычнай пары з цешчай, 7. вострая інфекцыйная хвароба, чорная смерць, 8. хімічны элемент н-р 53, 9. напр. сажалка, возера, 10. сузор'е паўночнага неба з Арктурам (Bootes), 11. Адамава спакусніца, 12. марка савецкага матацыкла, 13. востраканцовы выступ, напр. на сцябле ружы.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | 2 | | | | | |
| | | | | | | | 3 | | | |
| | | | | 4 | | | 5 | | | |
| | 6 | | 7 | | | | | 8 | | 9 |
| 10 | 11 | | | | 12 | 13 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — мараканская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**
Авал, вол, караван, мім, яда.

Рашэнне:
**Вада валам, віно каралям**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Вользе Гаворка** з Беластока і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 15.04 — 21.04

**(22.03. — 20.04.)** 17.04. запануе ў тваіх справах памяркоўны Меркурый; шчырыя, талковыя размовы. З 21.04. паспяхова пойдуць справы хатняга бюджэту. Добры час на раскручванне бізнесу, ды мей пад рукою аварыйны план. З 20.04. пазбягай канфліктных сітуацый. Другая палова месяца поўная радасці; рушыш з капыта і не будзеш баяцца выклікаў. Поспех — справа толькі часу!

**(21.04. — 21.05.)** Да 19.04. ты аслаблены, рассеяны; не расцярушвай сябе на драбязу. Прыйдзецца шмат працаваць, апрацоўваць дакументы, планаваць дзеянні на крок уперад, падлічыць усе расходы. Не будзе табе да рамантыкі і кампанейскага жыцця; пасля 19.04. зможаш дагаварыцца з дзецьмі.

**(22.05. — 22.06.)** З імпэтам возьмешся за хатнія справы (рамонты, парадкі). З 17.04. адкрыюцца перад табою новыя шанцы, атрымаеш прызнанне, прыхільнасць людзей. З 20.04. (да 24.04.) могуць паявіцца перашкоды і нечаканыя непаладкі; будзь гатовым на частыя змены, будзь гнуткі.

**(23.06. — 23.07.)** Не афармляй інтарэсаў да 17.04. 17-21.04. адважышся на рызыканцкія дзеянні, будзеш прадпрымальны, актыўны, лёгка пакіруеш іншымі і прымеш на сябе адказныя задачы. З 19.04. паправіцца табе настрой, набярэшся самаўпэўненасці. 21.04. суцішышся, будзе менш нерваў, лягчэй вырашыш пра важнае.

**(24.07. — 23.08.)** Да 17.04. будуць турбаваць цябе нейкія апаскі і боязь, хоць да 19.04. зоркі будуць старацца падтрымаць твой добры настрой. З 20.04. (да 24.04.) уміг разбярэшся нават у найбольш складанай сітуацыі. Можаш ажыццявіць новы план, які прынясе табе поспех. Новыя карысныя знаёмствы. Пільнуй свой кашалёк і дакументы!

**(24.08. — 23.09.)** З 17.04. чакаюць цябе змены, на якія ты непадрыхтаваны. Будзеш прымушаны да хуткіх рашэнняў, таму магчымыя памылкі. Наступае перыяд плаўных змен да лепшага. Усе цяжкасці паступова вырашацца, а справы палепшацца. Адазвуцца даўно нябачаныя знаёмыя. Карысныя знаёмствы, якія ў будучыні памогуць вырашыць асабістыя праблемы.

**(24.09. — 23.10.)** Найбольшую прыемнасць будзеш мець з добра выкананай працы. Пільнуйся ашуканцаў перш за ўсё ў панядзелак і аўторак. Азірайся па найбліжэйшым атачэнні, асабліва сярод людзей, з якімі нядаўна вы паспрачаліся. Правярай кожную інфармацыю.

**(24.10. — 22.11.)** Трымай эмоцыі пад кантролем, бо будуць у цябе дасведчанні на трываласць. Будзеш многа кантактавацца, перамяшчацца, весці актыўную дзейнасць. Трымай нервы пры любых сітуацыях! Маладзік Месяца (21.04.) змабілізуе цябе да дбайнасці аб сваю пару.

**(23.11. — 22.12.)** З 19 (да 23.04.) можаш зачараваць каго хочаш. Твая інтэлігентнасць, адкрытасць і пазітыўнае стаўленне з'ядноюць табе тлумы прыхільнікаў. Прыйдзецца табе займацца пару справамі адразу; выберы залатую сярэдзіну, дзе трэба больш прыкладсціся. Магчымыя грашовыя паступленні і паляпшэнне матэрыяльнага становішча.

**(23.12. — 20.01.)** Казярогам чакаючым павышэння прыйдзецца напрацавацца. Даўно засеяная ідэя ўзыйдзе. Мэтанакіраванасць і ўпартасць памогуць табе лёгка пайсці наперад, вырашаючы новыя пытанні. Найлепшае пачнецца з 21.04.: пачнеш чэрпаць з жыцця больш прыемнасці і задавальнення.

**(21.01. — 19.02.)** Перыяд гармоніі і раўнавагі ва ўсіх сферах (найлепшы для тых, у каго ёсць ужо другая палавінка, дзе адносіны яшчэ ўзмоцняцца). Каб пазбегнуць страт, лепш адмоўся ад больших пакупак.

**(20.02. — 21.03.)** 15-18.04. — зможаш паклапаціцца за свае інтарэсы, памножыш капітал, зробіш смелыя інвестыцыі. Многа руціннай работы, ад якой не адчэпішся. Ды адмоўся ад моцных напояў і лішку ў ежы. З 20 (да 24.04.) не пакіне цябе воля і рашучасць, знакаміта дагаворышся з людзьмі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА

# Пілігрымка ў сучаснае і гісторыю Святой Зямлі (2)

**Віфлеем** — адзін з найстарэйшых гарадоў на свеце. Заснаваны на Зямлі Ханаан, ён быў прыблізна ў XVII стагоддзі да нараджэння Хрыстова. Цягам доўгай і заблытанай гісторыі „дом Давіда" шматразова пераходзіў у рукі розных валадароў. Найвялікшай хрысціянскай святыняй у Віфлееме з'яўляецца Храм Раства Хрыстова. Пасля другой рымска-іудзейскай вайны апенінцы на месцы нараджэння Хрыста зрабілі паганскае капішча. І толькі ў 326 годзе ў час кіравання першага рымскага імператара-хрысціяніна Канстанціна паўстаў храм. Першасная камяніца была разбурана ў час паўстання самарыцян, але пасля яго здушэння імператарам Юстыніянам у 529 годзе храм быў адноўлены. Пазней сюды прыйшлі персы, яшчэ пазней — на некалькі стагоддзяў мусульмане, ну а з XI стагоддзя пачынаецца яшчэ больш крывавая гісторыя крыжовых паходаў.

З гледзішча сённяшняга дня падаецца, што менавіта яны паглыбілі супярэчнасці паміж дзвюма сусветнымі рэлігіямі. Прыйшоўшыя сюды, рыцары з розных еўрапейскіх краін не разумелі, што на гэтай зямлі таксама жыве шмат хрысціян і бяздумна вынішчалі, як ім здавалася, „іншаверцаў". З іншага боку знакаміты Саладзін і яго нашчадкі досыць цярпіма ставіліся да хрысціянства і нават прадстаўлялі вольны доступ паломнікам да ўсіх хрысціянскіх святыняў. Потым было яшчэ многа стагоддзяў розных уладаў і змагання за Віфлеем. А з 1995 года, паводле мірных дамоўленасцей, ён перайшоў пад кантроль Палесцінскай аўтаноміі. Зараз у сталіцы правінцыі пражывае каля 180 тысяч чалавек.

## Зорка Віфлеема

Базіліка Раства, збудаваная на плошчы Ясляў над пячорай, больш нагадвае невялікі замак. Уваход у Храм Раства зроблены так, што чалавек, які заходзіць усярэдзіну, мусіць схіліцца. Сама базіліка досыць прасторная і архітэктурна складаная. Усярэдзіне некалькі радоў каляровых калонаў. У Пячоры Раства мес-



ца з'яўлення на свет Збаўцы адзначана сярэбранай зоркай. Размешчана яно ў своеасаблівай нішы, якая нагадвае камін. У глыбіні храма на калоне лік Хрыста з заплюшчанымі вачыма. Для некаторых пры ўзмоцненым маленні вочы расплюшчваюцца. Звонку ў адным з дворыкаў размешчаны дасканала зробленыя, нібы жывыя, скульптуры Святога Сямейства з авечкамі. Атачаюць Храм Раства праваслаўны грэчаскі манастыр, францішканскі кляштар з касцёлам св. Кацярыны, армянскі манастыр. Непадалёк так званая „Малочная пячора" на месцы кармлення Багародзіцай дзіцяці Ісуса. Тут час ад часу выяўляюцца цуды, а менавіта бясплодныя жанчыны, якія сюды трапляюць, дзякуючы частачкам незвычайна белых камянёў пазней спазнаюць радасць мацярынства. Атмасфера наўкола святыняў зусім спакойная. У Віфлееме вайскоўцаў няма ўвогуле, снуўдаюць толькі досыць зычлівыя паліцыянты.



Царква Горненскага манастыра

Сучасныя дамы Віфлеема, як і Іерусаліма, абліцаваныя белым каменем — даламітам. З цягам часу ён крыху жаўцее, таму лёгка адрозніць найбольш новыя забудовы. Некалі англічане забараняді будавацца ў далінах, пазней гэта перарасло ў традыцыю. Тое, якім дзівосным чынам цяперашнія ізраільцяне забудоўваюць на гарыстай мясцовасці свае дамы, для недасведчаных застаецца загадкай. Вада на тэрасы пампуецца проста з крыніц. Вада — асаблівая каштоўнасць у Палесціне, паводле дамоўленасцей Ізраіль ажыццяўляе яе дастаўку.

## У горадзе манастыроў і мастакоў

Наступным пунктам нашага паломніцтва быў горад Эйн-Карэм, які па-іншаму называецца Градам Іудзіным. Сёння гэта заходняя ўскраіна Іерусаліма. Тут жылі праведныя Захарый і Лізавета — бацькі Яна Прадцечы. Тут жа і месца нараджэння Яна Хрышчэнніка. На адным з узвышшаў Эйн-Карэма размешчаны Горненскі праваслаўны жаночы манастыр. Некалі даўно тут адбылася сустрэча Багародзіцы з праведнай Лізаветай. Месца гэта надзвычай ціхае, заспакаяльнае. Амаль усе рускія праваслаўныя асяродкі на Святой Зямлі паўсталі ў другой палове XIX стагоддзя, дзякуючы найперш руплівасці архімандрыта Антаніна Капусціна, кіраўніка Рускай духоўнай місіі, вучонага з шырокім дыяпазонам зацікаўленняў. Тут жа, у гэтым манастыры, дзе пануе дзівосны спакой, падзвіжнік праваслаўя Капусцін і пахаваны. Усяго гэты архімандрыт пад місію купіў і аформіў на Зямлі Абяцанай ажно 13 зямельных надзелаў, дзе паўсталі хрысціянскія асяродкі.

Наўкола Горненскага манастыра з вялікай царквой, залатыя купалы якой пераліваюцца на сонцы, многа іншых маленькіх храмаў розных канфесій. Шмат дзе ўсталяваны ці вывешаны на штандары так званы чатырохканцовы Крыж паломніка, які таксама называюць іерусалімскім. Такі крыж змешчаны якраз на сцягу Грузіі. „Расшыфровак" яму некалькі. Адна з версій — вялікі крыж сімвалізуе самога Хрыста, а чатыры маленькія ўсярэдзіне — евангелістаў. Паводле іншай — пяць гэтых крыжоў азначаюць Ісусавыя раны. Яшчэ адно, найбольш старажытнае тлумачэнне — маленькія крыжы азначаюць цвікі, якімі быў прыбіты Збаўца да крыжа. Увогуле ж — гэта сімвал рыцарскага Ордэна Святой Труны Гасподняй.

Горненскі манастыр атачаюць кіпарысы і пальмы, растуць вялізныя кактусы, проста ў гаршках, часам агромністых, на розных завулках расстаўленыя разнастайныя дзівосныя кветкі. І паўсюдна шмат распешчаных свойскіх катоў. У Ізраілі гэтых хатніх жывёлін поўна не толькі ў манастырскіх асяродках, але і проста на вуліцах гарадоў. Для катоў тут сапраўдная вольніца. А вось сабаку можна ўбачыць рэдка. Утрыманне гэтых малодшых сяброў чалавека тут досыць жорстка рэгламентавана.

З гары, дзе стаіць манастыр, зручнымі сцежкамі і пераходамі спускаемся ў сам горад. Гэтыя пераходныя мясціны лічацца прэстыжным раёнам, тут у прыватных дамах жыве шмат мастакоў і іншых людзей творчых прафесій, селяцца тут і заможныя йеменскія габрэі. Па дарозе выходзім да Крыніцы Марыі, дзе, паводле падання, Багародзіца напілася вады. Гэта адна з самых ваданосных крыніц Іудзейскіх гор. Аднак сёння піць з яе ваду не рэкамендуюць, бо ёсць небяспека забруджвання з каналізацыі. Адсачыць жа гэта ў мясцовасці з такім рэльефам хіба немагчыма. Паколькі крыніцы тут не б'юць — занадта высока, у карставай пародзе шукаецца слабое месца, дзе знаходзяць ваду, якая пасля падаецца з пячораў-рэзервуараў.

Яшчэ адно памятнае месца Эйн-Карэма — францішканскі манастыр Яна Хрышчэнніка. Ён стаіць таксама на ўзвышшы на месцы, дзе была некалі старажытная базіліка, разбураная персамі. Тут чытаюць малітвы на розных мовах свету, наўкола па тэрыторыі ўсталяваныя ў розныя гады адпаведныя вялікія таблічы. Беларускамоўнай, на жаль, яшчэ няма, даводзіцца задаволіцца ўкраінскамоўным тэкстам. Мы сталі сведкамі незвычайнай малітвы групы афрыканскіх паломнікаў, якая выяўлялася ў нейкіх гучных, ажно надрыўна істэрычных, крыках. Нашым традыцыяналістам спрыняць гэтую экзотыку ў храме як малітву было надзвычай цяжка.

Эйн-Карэм — гэта месца не толькі паломніцтва, але і адпачынку. Тут мноства разнастайных кавярняў і рэстаранаў, дзе любяць бавіць час не толькі турысты, але і жыхары Іерусаліма. На вузкіх вулачках чапляюцца гандляры, якія настойліва прапануюць свой тавар, але кошты тут ужо вышэйшыя чым у Віфлееме.

## Праз брамы да святыняў

Стары Іерусалім, які з'яўляецца святым горадам ажно для трох сусветных рэлігій, абкружаны высокім мурам з мноствам вартавых вежаў. У час крыжацкага Іерусалімскага каралеўства было толькі чатыры брамы ў адпаведнасці з бакамі свету. Зараз уязных брам восем, з якіх адчынена і функцыянуе сем. Знаёмства са старымі кварталамі (а падзелены Іерусалім на мусульманскую, хрысціянскую, армянскую і габрэйскую часткі) пачалося праз Ільвіную браму, праз якую Хрыстос увайшоў у горад перад укрыжаваннем і якая вядзе да Царквы Раства Багародзіцы. Храм гэты размешчаны ў самым пачатку вуліцы Via Dolorosa (Дарогі Смутку), з якой уласна і пачынаецца Крыжовы шлях, фактычна ў пад'ездзе жылога дома. Дзіўна, але праз гэтую вуліцу цэлы час ездзяць аўтамабілі, прычым рух тут двухбаковы. Незразумела толькі, як машыны могуць размінуцца на досыць вузкім месцы, пры тым, што ўсюды натоўпы цікаўных турыстаў і паломнікаў. Належыць царква Раства Багародзіцы цяпер Іерусалімскаму праваслаўнаму патрыярхату. Невялікі храм знаходзіцца справа адразу пасля ўваходу. Тут рэдка праходзяць набажэнствы, аднак наша група патрапіла якраз на такі момант. Крыху збоку ад царквы ўваход у дзве пячоры, якія ў старажытнасці і былі домам святых Яўхіма і Ганны — бацькоў Марыі.

Крыху далей па вуліцы знаходзіцца Авечая купель, месца дзе Ісус Хрыстос здзейсніў адно са сваіх першых цудаў, ацаліўшы расслабленага — гісторыя, добра вядомая нам з Новага Запавету. Гэтым месцам, якое на іўрыце называецца Віфезда, валодае зараз Ордэн Белых Братоў Сіёна і ўваход сюды платны. А некалі праз Авечую браму сюды прыганялі да храма дзеля ахвярапрынашэння жывёлу. Ад старадаўніх часоў захаваліся руіны дзвюх арак, а ўвогуле месца нагадвае археалагічны музей пад акрытым небам, дзе можна ўбачыць і старыя падмуркі і рэшткі магутных калон. На гэтай тэрыторыі і два басейны: адзін запаўняецца дажджавой вадой, у іншым вада чырванаватага колеру, як напамінак пра даўнія ахвяры...

ISSN 0546-1960